© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

*ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ*

№ 3 (1966) ГОД XXXIX | БЕЛАСТОК 16 СТУДЗЕНЯ 1994 г. | ЦАНА 4000 зл.



*— А маіх саняў на стадолу не зацягнулі...* **Фота з архіва**

## БАГАТЫ ВЕЧАР

Навагодні вечар у нашай вёсцы — як я памятаю — здаўна яе жыхары, асабліва пажылыя, называюць шчодрым або інакш — багатым вечарам. Недзе сорак гадоў таму быў ён цікавы (мне і зараз ён незабыўны), асабліва для маладых.

У апошні дзень старога года мае бацькі ды сястра маёй маці, якая жыла ў нас, не забывалі прыхапіць тое-сёе з панадворка, каб хлопцы вечарам або ноччу чагосьці нам не сцягнулі. Бацька ўцягваў воз і сані ў стадолу. Калі толькі закончыў насіць ахапкі сена каровам і коням, адразу замыкаў клуню на вялікі замок. „Два гады раней, — расказваў бацька, — наша суседка, якую чамусьці называлі Тафілянкай, не прыхавала лёгкіх санак — шыткаў — дык назаўтра іх убачыла на... стадоле. Хлопцы туды іх зацягнулі. Паспрабуй зняць!”

Бацькі часценька выходзілі ў той вечар на двор. Калі толькі хто бразнуў брамкай-веснічкамі, бацька хапаў кажух і выходзіў паглядзець, што ўжо моладзь чаўпе. Аднойчы пачуў, як нехта пабег па панадворку, але не выйшаў з дому. На другі дзень глядзіць, а тут і брамку сцягнулі з завесаў, і дроў сухіх у кастрагу паменшала. А колькі ўжо гадоў падрад забіралі з нашага двара дзіравыя вёдры з попелам, цяжка палічыць. Быў гэта вечар поўны ўсялякіх неспадзяванак.

Маміна сястра, Оля, была паннай. Надыходзіць вечар, а тут усё яшчэ нашай маме трэба дапамагчы: і зварыць, і спячы, і ў хаце прыбраць. Ды дзень праляціць мігам, за акном пачынае цямнець і толькі ўсёй сям'ёй селі мы вячэраць, а тут раптоўна адчыніліся дзверы і групка дзяўчат убегла ў кухню, затупала ў сенцах.

— Оля, ты яшчэ не гатова! Хутчэй збірайся, бо і паваражыць не паспеем, зараз жа хлопцы пачнуць збірацца. Мы бяжым да Ігнацюковых, — загаманілі амаль хорам.

Оля пакінула есці і, апрануўшыся, шусь з сяброўкамі на загуменне па дровы. Кожная схапіла бярэмя дроў і бягом у хату лічыць: „пара, не пара”. Каторая з іх мела „пару” — значыць, у гэтым годзе выйдзе замуж.

Потым пачалі яны скідаць абутак і кідаць за сябе, прыгаварваючы: у якую старану выйду замуж. Олі ў гэты раз не пашанцавала, калоша павісла на галіне старой грушы. Было і горш. Туфельчык адной дзяўчыны ўляцеў у калодзеж.

Затым дзяўчаты пачалі лічыць частакол: „пара, не пара”. Гэтым разам у Олі „пара” — удалося!

З крыкам і смехам беглі дзяўчаты ў хату Пучынскіх (у іх была прыгожая дзяўчына Люба). Просяць маці Любы, каб прынесла курыцу ў хату. Кожная з дзяўчат сыпала на падлогу зерне пшаніцы і чакала: чые першае дзеўбане, тая з іх першай у гэтым годзе выйдзе замуж.

У тую ноч дзяўчаты кладліся спаць у панчохах. Калі дзяўчыне снілася, што нейкі хлопец у сне здымае ёй панчохі, значыць, што менавіта ён стане мужам.

Праўда, нічога ў нас у тую ноч не „ўкралі” з панадворка (бо ўсё мы пахавалі), але аказалася, што Оля нас вызваліла, калі вярталася дадому, бо нашы дзверы завязалі. Апрача таго ўсе мы даўжэй спалі. Спалі і праспалі раніцу. Шыбы ў вокнах памазалі нам белай глінкай (ёй бялілі печы, сцены і полап у хаце).

Суседзі нашы мелі дыму а дыму! Ім комін запіхнулі анучай. А бывала, каб няскора здагадаліся, шыбу на комін пакладуць. Знізу нічога не відаць, комін, як комін, а дым па кухні сцелецца, быццам густы і сівы туман.

А колькі дарожак высыплюць попелам! Ад хаты дзяўчыны да хаты хлопца. Толькі бабы, ідучы раніцай з усеначнай, прыглядаліся, ад каго і да каго высыпаны дарожкі — гаварыць тады было аб чым цэлыя мясніцы.

Але, на заканчэнне, яшчэ адно ўспомнілася. А смеху было колькі! У трэцім ад нашага двары хлопцы падхапілі на дручкі збіты з дошак нужнік і занесці яго на скрыжаванне дарог. Там паставілі яго, ды да задняй сценкі прыбілі бел-чырвоны і чырвоны сцягі. Кажуць, што на другі дзень міліцыя прыязджала і шукала-распытвала, хто гэтае мог зрабіць. Сцягі хуценька знялі. А віноўнікаў так і не знайшлі. Цяпер нашы хлопцы такой дурніцы ўжо не робяць.

Хутчэй за ўсё петарду пад акно падкінуць. А тая ж як гакне, як бабахне... У запасе ў іх і іншыя выбуховыя матэрыялы: ракеты, феерверкі. У адпаведнасці з духам часу.

... А мяне цягне ў мінулае, у традыцыю, якая так хутка „ўцякае” з нашых вёсак. Мне мроіца высыпаная малымі дарожка...

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

**Чытачам „Нівы”, карэспандэнтам і сябрам рэдакцыі, якія даслалі нам калядныя і навагоднія пажаданні, сардэчна дзякуем!**

**РЭДАКЦЫЯ**

## БЕЛАСТОК — ГОРАДАМ МІЖНАРОДНАЙ ДЫПЛАМАТЫІ

**Размова з віцэ-консулам Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку ІГАРАМ ХАДАСЕВІЧАМ.**

*—На пачатак раскажыце, калі ласка, пра Вашую біяграфію і Вашую дыпламатычную кар'еру да таго часу, як Вы з'явіліся ў Беласток.*

**Ігар Хадасевіч:** — Нарадзіўся я 15 студзеня 1961 года ў пасёлку Падсвілле Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Сёння гэтая мясцовасць налічвае прыблізна пяць тысяч жыхароў. Там жа я закончыў сярэднюю школу, пасля якой, у 1978 годзе, паступіў у Інстытут замежных моў у Менску. Валодаю французскай, ангельскай, польскай і, зразумела, беларускай і расейскай мовамі. Пасля заканчэння Інстытута (цяпер мае ён статус Лінгвістычнага ўніверсітэта) працаваў я тры гады настаўнікам французскай мовы ў сваёй роднай мясцовасці. У 1986 годзе зноў апынуўся я ў Менску — запрасіла мяне туды на працу турыстычнае бюро „Спадарожнік”, у якім быў я гідам-перакладчыкам французскай, ангельскай і польскай моў. У той жа час давялося мне працаваць з дэлегацыямі дзяржаўнага ўзроўню з Польшчы, Францыі, Англіі ці ЗША. Цяпер, калі прыехаў я на працу ў Польшчу, магу сказаць, што практычна ў кожным ваяводстве ёсць у мяне знаёмыя і сябры з часу тае першае працы ў „Спадарожніку”. У пачатку 1991 года, калі ў маёй краіне пачалі адбывацца працэсы па рэформе гаспадаркі, у „Спадарожніку” запрапанавалі мне пасаду загадчыка аддзела сумесных прадпрыемстваў — удалося тады стварыць некалькі супольных прадпрыемстваў з Польшчай, Нямеччынай, Кітаем і ЗША. Затым перайшоў я на працу ў выдавецтва „Беларусь” у якасці камерцыйнага дырэктара праекта беларуска-амерыканскага выдання „Дело”. Пасля гэтага ізноў вярнуўся я ў міжнародную турыстыку ды ўдзельнічаў у заснаванні Дзяржаўнага турыстычнага бюро „Рагнеда” пры беларускіх авіялініях дзе працаваў у якасці дырэктара. У гэты час, 1991 год, паступіў я на завочнае аддзяленне дэмаграфіі Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі. На пачатку 1993 года атрымаў я прапанову працы ў Міністэрстве замежных спраў — спачатку ў характары трэцяга сакратара Упраўлення двухбаковых зносін, дзе займаўся пытаннямі звязанымі з Польшчай, пазней перайшоў у Консульскае ўпраўленне. У пачатку снежня 1993 года я быў накіраваны на працу ў Польшчу ў характары віцэ-консула Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку.

*—Дзе ў Беластоку будзе знаходзіцца консульства ды чым яно ў асноўным будзе займацца?*

**І. Хадасевіч:** — Пакуль адкажу на гэтае пытанне, хачу адзначыць, што я

☞ *Працяг на стар. 4*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Nasz dialog z Ameryką, a może raczej — z Zachodem — toczy się jak rozmowa gęsi z prosięciem. Sytuacja stała się groźna dla sąsiadów Rosji. Czy Amerykanie nie wiedzą o odradzającej się mocarstwowości rosyjskiej i planach imperialnych? Oczywiście, że wiedzą. Ale doświadczenie uczy ich, że bardzo niewygodnie być samotnym żandarmem. Policjanci lubią chodzić we dwóch. Dlatego w interesie Ameryki leży odbudowa imperialnej siły Rosji i oddanie pod jej nadzór mało znaczących dla polityki amerykańskiej regionów świata. Dlatego nie można się dziwić naszym przygodom z NATO, gdzie co chwilę pokazuje się nam klamkę, figę, a jak trzeba, to wyrzuci się nas za drzwi, aby nie irytować Rosji.*

*(Polityka, nr 52/1993)*

* * *

*Урадаўцы ад асветы ганарацца, што ў Менску ажно 121 „беларуская" школа. Але ж і тут беларуская „мова" толькі на ўроках... Пасля званка з тымі самымі дзяцьмі гаворка ўжо вядзецца на... „общепонятном".*

*(Беларус, н-р 407/1993)*

А на каком же им разговаривать? На „общепонятном" говорил даже сам дядя Ленин, пользуется им каждый нормальный человек. Белаpуский язык — что это такое?

* * *

*Z badań przeprowadzonych wśród młodzieży wynika, że nie mają zamiaru ginąć za ojczyznę. Służba wojskowa przestała być zaszczytnym obowiązkiem. Ostatni wybitni sportowcy, jacy nam zostali, nie płaczą, słuchając Mazurka Dąbrowskiego, lecz raczej rezygnują z występów w reprezentacji, wybierając intratny kontrakt zagraniczny.*

*(Polityka, nr 52/1993)*

Палякі пачынаюць проста думаць так, як беларусы.

* * *

*Od trzydziestu paru lat, czyli od ślubu, w mojej rodzinie obchodzimy święta według obu kalendarzy. Choć moja małżonka i cała rodzina jest prawosławna, to tak jakoś się przyjęło, że wigilię 24 grudnia robiliśmy u mnie w domu, a wigilię wg tzw. starego stylu u teściowej,* — успамінаў Сяргей Плева, пасол **Сейма РП**, выбраны ў Беластоку са спіска **СЛД**.

*(Gazeta Tygodniowa, nr 52/1993)*

* * *

*Prezydent Wałęsa stanowi bardzo ciekawe zjawisko językowe. Ma prostą metaforykę, odwołującą się do walki, sportu, do samochodów... On dzieli świat na górę i dół, na lewo i prawo...*

*(Gazeta Współczesna, nr 250/1993)*

Які інтэлігентны аналіз мовы і псіхалогіі прэзідэнта!

* * *

Фрагмент справаздачы Анны Кавальскай з апошняга пленума ГП БГКТ: *Podkreślono, że w szkołach białoruskich na terenie całego województwa jest coraz więcej uczniów i przybywa ich z każdym rokiem. Rośnie też zainteresowanie językiem białoruskim, a więc istnieje potrzeba utworzenia kursów dokształcających. Na koniec stwierdzono, że BTSK nie będzie organizowało nic nowego oprócz tego, co działo się w ubiegłym roku.*

*(Styk, nr 12, grudzień 1993)*

Нас асабліва цешыць, што ўзрастае зацікаўленне беларускай мовай. Шкада, што мы гэтага не заўважылі.

* * *

*Mało jest kobiet zadowolonych ze swego biustu. Panie o drobnych piersiach z zazdrością patrzą na koleżanki noszące w stanikach miseczki typu „C" lub „D". Każda jest skłonna narzekać, że to ją natura obdarowała w sposób niesprawiedliwy i odbiegający od normy.*

*(Rzeczpospolita, nr 302)*

Дарагія дамы, тое, ці натура абдаравала вас справядліва, ці не, могуць ацаніць толькі вашыя сябры або мужыкі.

* * *

*Maciuś był uczniem piątej klasy. Szkoła nie podobała mu się w ogóle, tak więc większość wolnego czasu spędzał na spacerach po okolicy. Rodzice nie protestowali, ponieważ też nie mieli nigdy zbyt wiele wspólnego z edukacją. Na lekcji biologii pani spytała Maciusia o przyczyny nieobecności na poprzednich zajęciach — A co cię to k.... obchodzi? — usłyszała w odpowiedzi. Nauczycielka milczała zaczerwieniona ze wstydu. Maciuś w celu ostatecznego pogrążenia swojego przeciwnika rzucił: „Jak mi zaraz nie usprawiedliwisz, to cię na miejscu zaj...!!!*

*(Gazeta Współczesna, nr 251)*

Проста — нармальная школа, у якой у кожным класе ёсць прынамсі адзін Мацюсь, а, можа, нават і некалькі. Ніхто не ведае, што з імі рабіць. Каб іх пазбыцца са школы, найчасцей кожны год пераводзяць іх у старэйшы клас, нягледзячы на веды і паводзіны. Мацюсь, калі будзе яму 15 гадоў, таксама атрымае пасведчанне заканчэння школы.

* * *

*Niedawno dowiedziałem się, że 80% kosztów działania TVP pokrywają abonenci. Zgłaszam gotowość podwyższenia opłat z mojej strony, tak by pokrywały one 100%, w zamian za:*

*— zaprzestanie zmuszania mnie do oglądania co chwilę historyjek o czyszczeniu klozetów, łupieży jednej pani, pryszczach, podpaskach i brudnych portkach. Nie życzę sobie na to patrzeć;*

*— zaprzestania mizdrzenia się do kamery różnych prezenterów i ich pustej gadaniny;*

*— zaprzestania jawnej i ukrytej indoktrynacji polityczno-religijnej,* — піша чытач.

*(Polityka, nr 51/1993)*

Гэта прапановы, якія безумоўна варта падтрымаць.

## З мінулага тыдня

**Заходнія палітолагі** мяркуюць, што прыбліжэнне ўсходнееўрапейскіх дзяржаў да НАТО застаецца ў інтарэсе дэмакратычнай Расеі. На іх думку, Расея не будзе прэтэндаваць на права вета ў справах абаронных сувязяў Усходняй Еўропы і прыбалтыйскіх дзяржаў. Расея менавіта тым адрозніваецца ад Савецкага Саюза. Сувязі былых сатэлітаў з Захадам стабілізуюць дэмакратыю на кантыненце і падмацоўваюць рэфарматарскія сілы ў Расеі. Адносіны Захад — Расея — Усходняя Еўропа сталі тэмай некалькіх каментарыяў пасля візіту міністра замежных спраў **Анджэя Аляхоўскага** ў Боне. Мела яна „іншае вымярэнне", чым гэтага роду візіты міністраў. Палякі з надзеяй глядзяць на Захад і з бояззю на Усход і чакаюць перспектываў бяспекі з захаду.

**Барыс Ельцын** змяніў сваю пазіцыю ў справе членства Польшчы ў НАТО, бо „адчуў нерашучасць і эгаізм Захаду", — сказаў у інтэрв'ю для Бі-Бі-Сі прэзідэнт **Лех Валэнса**. Боязь заходніх палітыкаў перад Расеяй і пакіданне імі Сярэдняй Еўропы сам-насам з сабой прэзідэнт палічыў „дэзерцірствам". „У Амерыцы ёсць традыцыі і дэмакаратычныя структуры, яна — эканамічна і мілітарна моцная і мае рацыю, кіруючыся гэтым вопытам. У нас іншыя рацыі, іншы вопыт і мы прымушаны карыстацца момантам, каб потым выконваць тое, што прапануе Амерыка," — сказаў Л. Валэнса, пракаментаваўшы амерыканскую ініцыятыву „партнёрства дзеля міру".

**Будучае членства Польшчы ў НАТО** не створыць пагрозы для Расеі, — сцвердзіў прэс-сакратар прэзідэнта РП **Анджэй Джыцімскі**. На яго думку, Польшча імкнецца стварыць у Еўропе стабільную сітуацыю, бо менавіта ў гэтым раёне ўспыхвалі найбольшыя канфлікты, тут пачыналіся войны, якія ставаліся драмай усяго свету. Прэс-сакратар станоўча аднёсся да выказванняў шэфа Штаба аб'яднаных узброеных сілаў ЗША, **ген. Джона Шалікашвілі**, які сцвердзіў, што Расея не будзе мець права вета ў справе прыняцця дзяржаў Сярэдняй Еўропы ў НАТО.

**Маршалак Сейма** размаўляў з паслом ЗША **Нікаласам А. Рэем** аб пытаннях палітычнай і эканамічнай стабілізацыі ў Еўропе, а таксама аб удзеле Польшчы ў формах дапамогі ЗША для краін Усходняй Еўропы. Маршалак **Юзэф Алексы** прадставіў сумненні Польшчы ў справе стратэгіі Амерыкі ў галіне замежнай палітыкі і няясных планаў Захаду адносна прыняцця Польшчы ў НАТО.

**Другі тур рэфармавання беларускай арміі** закончыцца ў гэтым годзе. Прадугледжвае ён, што войскі былой беларускай ваеннай акругі будуць зменшаны з 300 да 100 тысяч салдат. Згодна новай ваеннай дактрыне, Рэспубліка Беларусь будзе ўтрымоўваць свае ўзброеныя сілы на ўзроўні „абсалютнага мінімума". У Беларусі не будзе ядзернай зброі.

30 снежня 1993 г. было прынята рашэнне аб стварэнні **Праваслаўнага вайсковага ардынарыята**. Сабор епіскапаў вырашыў накіраваць да працы ў вайсковым душпастырстве архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага **Саву**. У ардынарыяце прадугледжана 13 штатаў, а яго кіраўніку — штат генерала брыгады. Паводле царкоўных крыніц, у войску служыць 15 тысяч праваслаўных салдат.

**Вялікі аркестр святочнай дапамогі** — харытатыўная акцыя заініцыяваная год таму **Ежым Оўсякам** — падчас сёлетніх мерапрыемстваў, якія адбыліся па ўсёй Польшчы 2 студзеня, сабраў 25 мільярдаў злотых. За гэты грошы будзе куплена медыцынскае абсталяванне для дзіцячых шпіталяў. Падчас збору ахвяраванняў і шматлікіх канцэртаў у Беластоку было сабраных 737 мільёнаў зл., а святары Праваслаўнай царквы сабралі падчас набажэнстваў у гэты дзень 60 млн. зл.

**У беластоцкім ВНУ вучыцца 81 студэнт** польскага паходжання з-за ўсходняй мяжы, галоўным чынам з **Беларусі**, Літвы, Украіны і Расеі. На філіі Варшаўскага універсітэта займаецца 30 студэнтаў, на Медыцынскай акадэміі — 48 і Політэхнічным інстытуце — 3. Большасць студэнтаў карыстаецца стыпендыямі польскага ўрада.

**У конкурсе „Прыгожая вёска"**, арганізаваным Ваяводскай управай, найбольш упарадкаванымі мясцовасцямі былі прызнаны: Клапоты-Банькі (гм. Сямяцічы), **Крывяцічы** (гм. Орля) і Новае Стойла (гм. Сухаволя). У ліку пераможцаў у катэгорыі найбольш задбанай сядзібы апынуліся, між іншым, **Галіна Гнат** з **Паўловічаў** (гм. Мельнік) і **Яўген Заброцкі** са Збуча (гм. Чыжы).

## Праз тыдзень у „Ніве"

- Інтэрв'ю з віцэ-прэм'ерам Уладзімежам Цімашэвічам.
- Разважанні Міхася Махнацкага: лепш мець ці быць?
- Памяці Сяргея Карніловіча.
- Белыя буслы ці белыя мышкі? — разважае Пётр Байко.



## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### УРАД АБАРАНЯЎСЯ ПА ЗАКОНУ

„Ніва" ўжо паведамляла аб тым, што дзевятага лістапада 1993 года, напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, у Менску ля Дома ўрада была сканцэнтравана вялікая колькасць вайскоўцаў і нават некалькі бранявых машын. З гэтай нагоды лідэр парламенцкай апазіцыі Зянон Пазьняк накіраваў дэпутацкі запыт Генеральнаму пракурору рэспублікі Васілю Шаладонаву, у якім патрабаваў правесці праверку адносна законнасці падобнага манеўру ўрада. І вось днямі Генеральны пракурор у рэшце рэшт даў адказ Зянону Пазьняку. У прыватнасці Васіль Шаладонаў паведаміў, што ў дзень адкрыцця сесіі для аховы Дома ўрада сапраўды былі пасланы 800 вайскоўцаў. Аднак, на думку Генеральнага пракурора, абарона ўрадавага будынка была арганізавана ў строгай адпаведнасці з існуючым заканадаўствам.

І яшчэ. Васіль Шаладонаў паведаміў, што пракуратурай узбуджана крымінальная справа для вызначэння аўтараў ананімнай лістоўкі, якая была распаўсюджана напярэдадні сесіі. У гэтай лістоўцы ў прыватнасці гаварылася: „Толькі кулі вызваляць нас ад здрады ўрада Кебіча, не станем перад маскалямі на калені". Нагадаю, што БНФ і іншыя нацыянальна-дэмакратычныя партыі катэгарычна адмовіліся ад гэтай лістоўкі і ахарактарызавалі яе як палітычную правакацыю.

### ПАГРОЗА ДЛЯ СУВЕРЭНІТЭТУ

Вынікі парламенцкіх выбараў у Расеі, натуральна, не могуць не хваляваць і беларусаў.

Так, напрыклад, управа Беларускага народнага фронту ацаніла перамогу расейскіх фашысцкіх і камуністычных сілаў, як рэальную пагрозу для суверэнітэту нашай рэспублікі. БНФ лічыць, што зараз не можа быць і гаворкі аб уваходжанні Беларусі ў якія-небудзь саюзы з Расеяй, бо яна пастаянна стаіць на парозе грамадзянскай вайны.

Наогул, на думку кіраўніцтва народнага фронту, Беларусь павінна неадкладна выйсці з Садружнасці Незалежных Дзяржаў, беларуска-расейскую мяжу трэба тэрмінова зачыніць на замок.

Інакш адрэагаваў на перамогу партыі Уладзіміра Вольфавіча Жырыноўскага спікер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч. Ён назваў гэта нечаканасцю, але тым не менш выказаўся за далейшае ўмацаванне сувязей з Расеяй. І гэта пры тым, што партыя Жырыноўскага мае перад сабою за мэту аднаўленне Расейскай імперыі ў межах 1913 года.

### КУПАЛАЎСКІ ТЭАТР СТАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ

Добры падарунак напярэдадні Новага года атрымалі артысты Купалаўскага тэатра. Урад рэспублікі прыняў пастанову аб перайменаванні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. У сувязі з гэтым артыстам тэатра плануецца павялічыць заробак амаль у два разы.

### НАФТАВЫ ГОЛАД ДА КІЕВА ДАВЯДЗЕ

29—30 снежня 1993 г. у Кіеве адбылася канферэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна, на якой прадстаўнікі Беларусі, Літвы, Латвіі, Украіны і Эстоніі абмеркавалі план стварэння Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара.

Беларусь на канферэнцыі прадстаўлялі неафіцыйныя асобы — эканамічныя эксперты з БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Аб'яднання дэмакратычнай партыі. У той жа час на Украіне і Літве створаны спецыяльныя дзяржаўныя камітэты ў падтрымку рэалізацыі дадзенага праекта.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## „ЧАЦВЯРГІ Ў СЛЯНДЗІНСКІХ"

Гарадскі музей і Галерэя імя Сляндзінскіх у Беластоку запрашаюць на літаратурны вечар „Дзе Рым, дзе Крым", прысвечаны лірыцы **Яна Чыквіна**. Вечар павядзе доктар Тэрэса Занеўская.

Сустрэча адбудзецца 20 студзеня 1994 г. а гадзіне 17.00 у Галерэі на вул. Варынскага, 24 а, у Беластоку.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЗАПЛАЦІЛІ

Раісу звольнілі з працы, ды і не толькі яе, калі зліквідавалі кравецкае прадпрыемства. Паўгода стаяла ў чэргах з беспрацоўнымі, беручы грошы-дапамогу.

— Ёсць праца для вас, — сказала ёй аднойчы сяброўка. — Прыватны прадпрымальнік прымае на працу добрых краўчых.

Раіса, шчаслівая, пабегла з сяброўкай да спадара Р. На працу яе прынялі. Найбольш была рада таму, што зноў бярэ грошы за працу, што зноў патрэбная грамадству. Папрацавала месяц.

Калі прыйшоў дзень выплаты, Раіса і іншыя працаўнікі грошай чакалі да вечара. Прывёз іх спадар Ц., які купіў тавар ад прадпрымальніка. Раіса грошы брала першай. Назбіралася гэтага каля 2 мільёнаў — мільён адным банкнотам, дзевяцьсот тысяч сотнямі.

Назаўтра Раіса пайшла ў краму купіць дачцы сукенку. Выцягнула мільён. Якое ж было яе здзіўленне, калі прадаўшчыца зачыніла краму і прыказала ўсім чакаць прыезду паліцыі!

— Гэтая пані дала мне фальшывую купюру! — паведаміла, паказваючы на Раісу.

— Яны не могуць быць фальшыўкай! — абурылася Раіса. — Мне такія далі на працы!

Пакуль даведаліся ў прадпрымальніка Р., адкуль у яго фальшывыя грошы ў касе, у Раісінай кватэры зрабілі вобыск, шукаючы матрыц да вырабу фальшывых грошай і каштоўных папераў, а яна сама з мужам праседзелі суткі ў арышце. Спадар Р. паведаміў, што ў яго фальшыўкі ад пана Ц., а той сцвердзіў, што грошы атрымаў ад свайго брата, які выехаў за мяжу.

— Калі хочаце атрымаць свае грошы, прыдзецца вам судзіцца, — параілі працаўніцам спадара Р. паліцыянты.

— Але, больш страчу на гэтым, пэўна, чым выйграю! — махнула рукою Раіса. — Вось дый зарабіла я за працу, вось прыдалася грамадству!

**АЎРОРА**

# ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА?..

— Сам з з беларускага горада Гомеля, — кажа мне „рускі" гандляр Валодзя, дыхаючы на змерзлыя ад снежаньскага холаду рукі, — раней працаваў у вытворчасці, але цяпер з працай кепска, і мне не застаецца нічога лепшага, чым штомесяц ездзіць у Цешын, гандлюючы ўсялякімі трантамі.

З Валодзем я пазнаёміўся на мясцовым рынку. Перад усходнім турыстам, як і мае быць, адразу на пасланай газетцы раскладзены нейкія тавары, якія ён прапануе за паўцаны. Некаторыя падыходзяць, прыцэньваюцца... Але пакупнікоў мала, і таму Валодзя, бавячы час, надалей распавядае мне пра свае жыццё:

— Пэўна, палякам добра вядома, якая сітуацыя складаецца цяпер за ўсходняй мяжой. Шмат прадпрыемстваў ліквідуецца, кошты растуць штодня, дзяржаве на ўсіх напляваць. Нават тыя, хто мае якуюсьці працу, вядуць лад жыцця, блізкі да жабрацкага. Сярэдняя зарплата беларуса каля 100 000 так званых „зайчыкаў", беларускіх рублёў, гэта на польскія грошы недзе з паўмільёна злотых. А кошты на многія тавары ўжо прыблізна такія ж, як і тут... Але, пакуль што, яшчэ ёсць сэнс рабіць камерцыйныя туры ў Польшчу: гэтым разам я, напрыклад, прывёз некалькі камплектаў бялізны, іншага пакрысе і, калі змагу ўдала прадаць, буду мець суму, удвая большую за сярэднюю зарплату. Да таго ж, у мяне жонка, якая таксама трапіла пад скарачэнне, дзеці... Каб не гэтая Польшча, не ведаў бы, што і рабіць...

— І ці многа вашых знаёмых ездзяць гандляваць? — пытаюся я.

Валодзя згодна ківае:

— Так... У многіх гэтыя вандроўкі сталі галоўнай крыніцай існавання, некаторыя гандляры цяпер ведаюць геаграфію Польшчы амаль гэтак жа, як і Беларусі... Я, напрыклад, езджу сюды, некаторыя — у Губін, некаторыя — ажно ў Шчэцін... Ёсць „рускія", якія курсуюць па рынках Усходняе Польшчы, скупляючы гуртам тавары ў сваіх жа суайчыннікаў і прадаючы іх потым ажно на мяжы з Нямеччынай...

У гэты час да Валодзі падышоў нейкі пакупнік, і нашая размова наконт сладанасцяў існавання скончылася.

Выйшаўшы з рынку, я міжволі згадаў, што яшчэ некалькі гадоў таму палякі гэтак жа ездзілі ў Нямеччыну і ў Аўстрыю, і тамтэйшыя газеты штораз падавалі гэта як выключна негатыўную з'яву. Цяпер вось да нас ездзяць „рускія". Гісторыя паўтараецца?..

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

*У снежні 1993 г., г. Цешын*

# Каляднікі на сцэне

У суботу, **15 студзеня 1994 года** ў Гмінным асяродку культуры ў **Юхноўцу** пад Беластокам і ў нядзелю, **16 студзеня 1994 года** ў Гмінным асяродку культуры ў **Чаромсе** адбудуцца Ваяводскія сустрэчы каляднікаў. Арганізатарамі гэтых мерапрыемстваў з'яўляюцца Ваяводскі аясродак анімацыі культуры ў Беластоку і мясцовыя культурныя ўстановы.

Абодва мерапрыемствы пачынаюцца а гадзіне 11. Арганізатары запрашаюць усіх ахвотных.

Варта дадаць, што групы калядоўшчыкаў будуць калядаваць у Юхноўцу і ў Чаромсе ды навакольных вёсках. Сабраныя такім чынам грошы будуць перададзены Вялікаму аркестру святочнай дапамогі.

**(яц)**




### ОЙ, ЗІМА МАРОЗНАЯ!..

Снежань прайшоў,
Студзень надышоў...
Ёсць снег і мароз,
Траскатня бяроз...
Як трашчаць бярозы,
Кожны будзь цвярозым,
Бо будзеш здаровы,
Дык наколеш дроваў.
Каб было цяпло
Ў хаце, не цягло
Скразняком і холадам
І духоўным голадам!
У доўгія вечары
Кнігу ты бяры
Запаветну, нову;
Знойдзеш у ёй аднову.
Абыдзі падскокам
Тэлевізар бокам;
Лепш ужо пачытаць,
Мудрасці набраць,
Хоць дурное цягне,
Чалавек так прагне
Баек наглядзецца;
Так яму й вядзецца!
Не выспіцца ўночы,
І ў жывыя вочы
Будзе так маніць,
Што ў вушах звініць!..
Ой, зіма марозная,
У паходзе грозная:
Вымаразь ліхое,
Для душы чужое!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

### МЕСЯЦ ДЗІВУ ГОДНЫ

Месяц, месяц, дзіву годны,
Выпаў табе лёс нягодны,
Колер, выгляд ты мяняеш
Ды што робіш, сам не знаеш.

Раз ты свеціш ясна, чыста,
Другі раз быццам імгліста,
А, бывае, недзе згінеш, —
Цёмну ночку нам пакінеш.

Дзе ты ходзіш? Дзе бываеш?
Ці сяброў якіх ты маеш?
А мо блудзіш дзесь начамі
Па-над хмарамі, гарамі?

Часам выстаўляеш рогі,
Тады чвэрць цябе, убогі,
І плывеш так у прасторы,
Быццам па шырокім моры.

І хто сказаў бы дзе, калі,
Месяц упаў аж да зямлі,
Свой горб блішчучы паказаў,
Калі з-за лесу уставаў.

Апранушы срэбну шату
Праз акно глядзіць у хату,
Разіць людзям спячы вочы,
Не дае заснуць уночы.

Месяц дзіўны і чароўны,
Калі станецца больш поўны
І так свеціць на край свету,
Хоць бяры чытай газету.

А пісала раз газета,
Што наш месяц ёсць планета,
Ды хоць далёка ад зямлі,
Людзі аднак на ёй былі.

Лондан, 1992 г. **Ю. В-СКІ**

# МІНУЛАЕ І ЦЯПЕРАШНЯЕ ОРЛІ

## Калісьці

Паходжанне назвы „Орля" не высветлена. Адны даказваюць, што калісьці адразу за гэтай мясцовасцю цягнуліся аграмадныя лясы, а ў іх вяліся арлы. Другія ж сцвярджаюць, што назва паходзіць ад назвы ракі, бо Орля расселася над рэчкай Арлянкай, у якую ўпадае рачулка Орля. Выпадковыя раскопкі (каменныя сякеры і малаткі, гліняныя урны з попелам) паказваюць на дагістарычнае паходжанне пасёлка.

З пісьмовых крыніц вядома, што Орля — вельмі даўняе паселішча, вядомае з XIV стагоддзя. У адным з дакументаў сцвярджаецца, што Орля ўзнікла ў 1507 годзе. У 1529 годзе ў яе склад уваходзілі вёскі Тапчыкалы і Кашалевічы (Кашалі), а таксама паселішча баяр Пашкоў (цяпер Пашкоўшчына). У 1577 годзе да Орлі належалі Кашалі, Шэрні, Тапчыкалы, Клужкі, Вервачкі, Тапарова (сёння Тапаркі), Крываволя (сённяшнія Крывацічы) і Рудолты (сёння Рэдуты).

Гарадскія правы Орля атрымала ў 1789 годзе. У 1880 годзе ў ёй жыў 2331 чалавек. Мястэчку быў устаноўлен герб: чорны арол з тапаром у правай назе на чырвоным полі.

Вёскі Клужкі і Вервачкі сёння не існуюць. Вервачкі ўвайшлі ў склад Орлі, значыліся на картах 1848 і 1880 гадоў. Гэтая вёска знаходзілася на правым беразе Арлянкі там, дзе сённяшні хутар Антанова. Паводле старэйшых жыхароў, вёска Вервачкі складалася з 82 гаспадарак і прасціралася ад сённяшняга хутара Антанова да арлянскага праваслаўнага могільніка. У васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя па навакольных вёсках і мястэчку прайшла эпідэмія халеры і менавіта тады вымерлі жыхары Вервачак. Засталося толькі пяць гаспадароў. Уладальнік Орлі перасяліў іх у Вольку і Міклашы. У сувязі з тым, што ўладальнік называўся Антон, адтуль і ўзялася назва хутара Антанова.

Памяць пра вёску Клужкі цалкам загінула. Ніхто дагэтуль не ўстанавіў яе месцазнаходжання. Няма нават палявога ўрочышча з такой назвай.

У XVIII стагоддзі Арлянская воласць была ўласнасцю гетмана Браніцкага, а потым перайшла ва ўладанне князя Вітгенштэйна. Гэты апошні ў 1874 годзе прадаў зямлю жыхарам Орлі, а грунты самой воласці былі распрададзены сялянам, што „сядзелі" на іх.

Значнае развіццё пасёлка наступіла ў дзевяностых гадах мінулага стагоддзя. У 1880 г. у Орлі быў узведзены комплекс драўляных будынкаў і мураваны шпіталь, які праіснаваў да 1915 года. У міжваенны перыяд яго займала пачатковая школа. Яшчэ ў васьмідзесятыя гады адзін з гэтых будынкаў займала школа, другі — прадшколле, мураваны — Гмінная ўправа, а яшчэ ў іншым змяшчаліся гмінны асяродак культуры і гмінная публічная бібліятэка.

Нетры Орлі і навакольных вёсак багаты глінай. Да канца XIX стагоддзя мястэчка славілася ганчарнымі вырабамі. Крыху пазней пачалося прамысловае выкарыстоўванне радовішчаў гліны. Працавалі палявая цагельня (у 1950—1970 гадах) ды кафлярня. У 1908 годзе працавалі тры кафлярні Айзіка Вайнштайна. „Бізнес" ішоў бойка, вайнштайнавы кафлі карысталіся попытам. У 1939 г. кафлярню пераняла дзяржава.

## Сёння

Пасёлак Орля налічвае 1117 жыхароў (у 1975 годзе ў ім пражывала каля 1500 чалавек). Орля з'яўляецца сядзібай Гміннай управы. У гміне 29 вёсак (у тым ліку 23 салэцкіх), 14241 га ворыўнай зямлі, лугоў і пашы. У мястэчку працуюць: пошта, гмінная спулдзельня, пастарунак паліцыі, пачатковая школа, праваслаўная парафія. У ім таксама ёсць асяродак здароўя, аптэка, паслуговыя майстэрні, млын.

— У арлянскай гміне пражывае 4814 чалавек, — паінфармавала намеснік кіраўніка аддзела ЗАГСа, Лідзія Кубаеўская. — Найбольшыя вёскі — Кашалі (367 жыхароў), Маліннікі (279) і Градалі (252 жыхары). Зараз натуральны прырост насельніцтва невялікі. У 1993 годзе пажаніліся шаснаццаць пар. Найбольш у асеннія месяцы. Адна маладая жыхарка выйшла замуж за француза.

Бацькі даюць сваім дзецям такія імёны: Паўля, Юстына і Эва — для дзяўчынак; Данель, Анджэй і Павел — для хлопчыкаў. У верасні 1994 года ў гэтай гміне ў першы клас пойдзе ўсяго 35 дзяцей.

Найстарэйшым жыхаром Арлянскай гміны з'яўляецца Якуб Пыж з Кашалёў (нарадзіўся ён 4.XII.1888 года). Сто „вёснаў" пражыла Анастасія Вакулеўская з Крывой (нар. 24.XII.1893 г.).

У 1990 годзе ў гміне памерла 53 чалавекі, у 1992 — 39 і ў 1993 годзе — 54.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# „ДАРАГАЯ ЗЯМЛЯ"

Так у нас называюць мінеральныя ўгнаенні. Цяпер, калі ў чалавека ёсць грошы, „дарагую зямлю" прывязуць яму на яго падворак. Нядаўна ў Дубічах-Царкоўных прадавалі з машыны салетру — па 2 мільёны 150 тысяч, суперфасфат — па 1 мільёне 800 тысяч злотых за тону. Сялян ратуе тое, што ў кожнай хаце атрымліваюць пенсіі і здаюць малако. Дарагая зямля, бо яна — як заходняя, а грошы ў нас — усходнія. Хіба доўга чакаць нам прыдзецца таго, калі штосьці зраўняецца. Але ці ўвогуле маем на гэта які-небудзь шанц?..

**М. ПАНФІЛЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# БЯДА НАША Ў АРЫЕНТАЦЫІ

Я бачу, што не толькі мяне, але ўсіх нашых праваслаўных вернікаў і нашае праваслаўнае духавенства абурыла інтэрв'ю вышэйшага каталіцкага духавенства Беласточчыны, змешчанае ў газеце „Gość Niedzielny". І правільна, што абурыла, так яно і павінна быць, бо гэта не проста „нейкае там інтэрв'ю", а пачатак свядомых нападкаў на нас, праваслаўных.

А да чаго могуць давесці міжнацыянальныя і рэлігійныя канфлікты, надта наглядна бачым на прыкладзе Югаславіі — да вялікай і крывавай трагедыі. Таму павінны мы зрабіць усё магчымае і немагчымае, каб, барані нас Божа, не дапусціць да канфліктаў між намі, праваслаўнымі і католікамі Беласточчыны! Згода будуе, а нязгода руйнуе — гэта хрысціянская ісціна...

А цяпер, давайце, задумаемся, як і чаму магло дайсці да такога інтэрв'ю і ці часам няма ў гэтым нашай віны. Ці мы, праваслаўныя вернікі, і ў асноўным праваслаўнае духавенства, не даем аргументаў для такіх недарэчных прэтэнзій?! Па-мойму, даем, і то яшчэ як!

Асноўны закід — гэта тое, што праваслаўнае духавенства праводзіць ненавісную ім русіфікацыю праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, значыць, рыхтуе Расіі пятую калону...

Што можам сказаць пра гэты закід? А тое, што пятая калона — гэта напэўна няпраўда, абсалютнае глупства, бо наша супольная гісторыя ўжо не раз даказала, што беларусы сваю Айчыну шанаваць умеюць, калі гэтая Айчына хаця сяк-так іх шануе.

Запярэчыць, аднак, таму, што нашае духавенства русіфікуе праваслаўнае насельніцтва ніяк не зможам. Ці ж загаварыў калі наш святар па-беларуску ці на нашым беларускім дыялекце да сваіх вернікаў? Ці пачулі мы ў царкве пропаведзь на беларускай мове? Ніколі! Проста з маніякальнай упартасцю стараюцца яны гаварыць па-расейску, хаця і яны, і тым больш іх вернікі слабенька ведаюць рускую мову. І не дзіва, бо і адкуль ім ведаць?

Калісьці ў маіх бацькоў быў госць з цэнтральнай Расіі. У дзень парафіяльнага свята мы былі ў царкве. Пачуўшы пропаведзь нашага бацюшкі, ён запытаў: „На каком языке он говорит?" Мне крыху сорамна стала і я схлусіў: „На славянском". Падумаўшы крыху ён аўтарытэтна адказаў: „А ты знаешь, славянский язык похож на русский. Русский человек может понять..." „А пэўна" — сумна згадзіўся я...

А чулі вы, як прыгожанька і зразумела вядуцца нашымі святарамі беларускія праваслаўныя перадачы і пропаведзі па Беластоцкім радыё? Проста любата адна, і не дзіва, што ўсім яны так падабаюцца. Чаму ж тады загаварыць падобна не хочуць нашы святары ў сваіх цэрквах і да сваіх вернікаў?

На поўдні Польшчы і праваслаўныя епіскапы, і святары гавораць у цэрквах па-ўкраінску, і хаця і гэтая мова каталіцкаму духавенству і вернікам напэўна не мілая, але ўжо такога закіду, як нам, ім паставіць не могуць. Зрэшты, не дазволіць на гэта незалежная Украіна, як не дазволіла б і Беларусь. І аргументы адпаведныя ў іх дзеля гэтага знайшліся б.

Наступным моцна шкодным нашаму праваслаўю сцвярджэннем у інтэрв'ю было такое, што на Беласточчыне няма ніякіх беларусаў, а праваслаўныя — гэта прывезеныя царом рускія або русіфікаваныя палякі...

Хаця і гэтае сцвярджэнне абсалютна недарэчнае, але што тут будзеш гаварыць пра каталіцкі клір, калі нашае роднае праваслаўнае духавенства таксама ўпарта не заўважае беларусаў? Больш ахвотна яно бачыць тут русінаў або тутэйшых, чым беларусаў. А католікам толькі таго і трэба! Гэта вада на іх млын, бо такой нацыі, як „тутэйшыя" няма і ніколі не будзе. З другога, аднак, боку вядома, што кожны чалавек мусіць належаць да якогасьці роду-племені. І вось тут, у сваёй бязмежнай дабрыні, дапамагае ім, нашым „тутэйшым", адшукаць сябе, сваю тоеснасць, каталіцкае духавенства, аўтарытэтна даказваючы, што „тутэйшыя" — гэта русіфікаваныя царом палякі. Бачыце, як проста?

Яшчэ прасцей выглядае справа з „русінамі", бо русіны, як сама ўжо назва гаворыць, паходзяць з Расіі. Расія ж не гранічыць з Беласточчынай, а ляжыць вунь — кіламетраў за тысячу ад яе. Значыць і тут напаскудзіў цар-бацюшка. Цэлымі вёскамі вывозіў палякаў у Сібір, а на іх месца прывозіў і сяліў на Беласточчыне продкаў згаданых русінаў, каб яны рабілі ўсялякія свінствы астаўшымся яшчэ тут палякам. І яны, напэўна, рабілі...

Зусім іншая справа з беларусамі, бо і прыхільнікі русінаў, і тутэйшых, думаю, ведаюць, і тым больш гісторыя дасканала ведае, што толькі беларусы з'яўляюцца карэнным праваслаўным насельніцтвам Беласточчыны. Гэтага ніяк і нікому схаваць не ўдасца. Вось чаму так залежыць каталіцкаму кліру, каб не было на Беласточчыне беларусаў. І ў пэўным сэнсе іх зразумець яшчэ можна. Але чаму так хочацца, каб не было беларусаў на Беласточчыне нашаму праваслаўнаму духавенству, ніяк зразумець не магу.

Прыгадаць яшчэ трэба і тое, што ніякі міжнародны форум, з якім польскі ўрад і каталіцкае духавенства лічыцца мусяць, не возьме ў абарону нейкіх там прышэльцаў „русінаў" ці пярэваратняў „тутэйшых", а толькі канкрэтную, гістарычна ўдакументаваную нацыю. А такой, паўтараю яшчэ раз, з праваслаўных на Беласточчыне, ёсць толькі беларусы.

І яшчэ адзін прыклад цаны, якую мы плацім за неадпаведную арыентацыю. Нядаўна быў я на сустрэчы з прадстаўнікамі Супрасльскага манастыра. Яны дакладна расказалі прысутным аб мінуўшчыне і актуальнай сітуацыі нашай праваслаўнай святыні. З іх слоў вынікае, што актуальны стан такі: нарэшце Манастыр паводле ўсіх юрыдычных правіл вернуты праваслаўным, але ёсць яшчэ сілы, якія не хочуць з гэтым пагадзіцца і робяць усялякія захады, каб зноў адабраць Яго ў нас.

Хто ж яны, гэтыя сілы? Адна з іх, канешне, усім нам дасканала вядомая і гаварыць пра яе не буду, бо і сэнсу няма. А вось пра другую пагаварыць трэба. Гэта уніяты. Яны ўжо ў свой час салідна пакарысталіся Супрасльскім манастыром, часткай манастырскай маёмасці і дасюль карыстаюцца, але ім усё мала і мала. Справа ў тым, што Супрасльскі манастыр меў свой заезны двор або філіял. Знаходзіўся ён у самым цэнтры Варшавы, на вуліцы Мядовай. Гэты філіял і дасюль існуе і паводле нашых сучасных законаў павінен з'яўляцца ўласнасцю Супрасльскага манастыра, але не з'яўляецца. Пасяліліся там і карыстаюцца ім уніяты. Яны не толькі не думаюць вярнуць яго праваслаўным, але наадварот, патрабуюць увесь Супрасльскі манастыр...

Надта ж знамянальным з'яўляецца тут і такі факт, што яшчэ пры санацыйнай Польшчы уніяты прэтэндавалі на гэты філіял і нават падавалі ў суд. Справу, аднак, прайгралі. Суд матываваў адмову тым, што Супрасльскі манастыр заўсёды быў, па-свецку кажучы, беларускай арыентацыі, а уніяты, якія хацелі адсудзіць яго, як і сённяшнія уніяты — украінскай. Бачыце, якой важнай была, значыць, і ёсць, нацыянальная арыентацыя? І ў рэлігійных справах яна таксама значны фактар. Ці сёння супрасльская манастырская брацiя бярэ гэта пад увагу? Здаецца, не вельмі. Згаданую сустрэчу з намі стараліся яны весці толькі на рускай мове...

У заключэнне, зважыўшы на апошнія факты з уніятамі-ўкраінцамі, на ранейшыя, надта варожыя, адносіны да нашых праваслаўных святынь пасла-ўкраінца і яшчэ некалькіх падобных спраў, хочацца запытацца ў нашых братоў-украінцаў, чаму ж так любуюцца яны рабіць нам прыкрасці? Адносіцца ўражанне, што выраблячь свінствы нам, беларусам, сталася адметнай рысай і нацыянальным хобі польскіх украінцаў. Ой, брыдка і як бы не зусім па-хрысціянску цэ гэта.

**ВАСІЛЬ АНТАНЮК**

# БЕЛАСТОК — ГОРАДАМ МІЖНАРОДНАЙ ДЫПЛАМАТЫІ

☛ *Працяг са стар. 1*

вельмі ўдзячны ваяводскім і гарадскім уладам за іхнюю дапамогу, цёплы прыём і зразуменне, з якім я сустрэўся, рабіўшы ў Беластоку першыя свае арганізацыйныя крокі. Тыдні два таму *(інтэрв'ю бралася ў канцы снежня 1993 — рэд.)*, калі быў я ў Беластоку з паслом Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Сянько, аглянулі мы некалькі будынкаў, якія нам прапануюцца пад консульства. Пакуль што, пытанне канчаткова не вырашана. Прапануецца нам вельмі цікавы будынак пры вуліцы Сітарскай — асабняк, даваенная забудова, на партэры можна размясціць бюро ды ўсялякія службы, ёсць таксама і кватэры, у якіх маглі б пасяліцца супрацоўнікі консульства. Ну, але пытанне гэтае, як я ўжо сказаў, яшчэ не вырашанае, бо ёсць тут адзін істотны аспект. Консульства Рэспублікі Беларусь — першая дыпламатычная ўстанова ў Беластоку, можа не апошняя, але з нашым уваходам сюды і адкрыццём консульства горад набывае міжнародны статус. Да гэтага ж Беларусь — краіна-сусед, дык нам хацелася б мець нешта ў самім цэнтры горада. Мы, аднак, бачым, што гэта не такая простая справа — дарэчы, і ў нас у Менску ёсць цяпер некаторыя складанасці, ну, але пасольства Польшчы знаходзіцца ў самім цэнтры горада.

Чым будзе займацца консульства? Консульства — гэта афіцыйнае прадстаўніцтва ўрада краіны за мяжой і тут у двух словах не скажаш, якая яго роля. Перадусім — абарона правоў і інтарэсаў грамадзян Беларусі, якія знаходзяцца за мяжой, а таксама вырашэнне розных палітычных аспектаў двухбаковых дачыненняў нашых краін. Не заглядваючы наперад, хацелася б шмат што зрабіць, каб дачыненні гэтыя былі добрымі, каб не ўзнікалі тут нейкія праблемы. Не будзем таксама забывацца, што горад Беласток і Беласточчына — месца, дзе жыве значная колькасць людзей беларускага паходжання, грамадзян Польшчы, але ж беларусаў. Думаецца мне, што было б вельмі добра, калі б консульства ў нейкіх справах успамагала сваю меншасць.

*—Як вялікім будзе консульства ў колькасна-кадравым сэнсе?*

**І. Хадасевіч:** — Пакуль што, плануецца чатыры асобы — вось я, віцэ-консул, спадзяюся, што ў блізкім часе будзе назначаны Генеральны консул ды яшчэ дзве пасады, але гэта ўжо, так сказаць, тэхнічнага характару. Думаю, аднак, што кадравы састаў консульства не заканчыцца на гэтым ліку.



*Ігар Хадасевіч з жонкай Аленай і сынам Ігнатам.*

*—Хто праводзіць набор працаўнікоў у консульства ды якая магчымасць знайсці ў ім працу беларусу адсюль?*

**І. Хадасевіч:** — Кадравая палітыка праводзіцца Міністэрствам замежных спраў. Наконт другой часткі пытання, у гэты момант, я яшчэ не надта добра арыентуюся, хаця пытанне такое ўжо сабе ставіў ды сказаў бы, што гэта не выключана, паколькі ў беларускіх дыпламатычных установах у іншых краінах працуюць таксама не грамадзяне Беларусі.

*—Якія Вы, як віцэ-консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку, бачыце рэальныя магчымасці дапамогі беларусам Беласточчыны?*

**І. Хадасевіч:** — У Беластоку прабываю я нядоўга, не надта добра яшчэ ўгледзеўся ў абстаноўку, дык цяжка мне ў гэты момант рабіць канкрэтныя высновы. Я, перш за ўсё, хацеў бы пазнаёміцца, якія тут цяжкасці і праблемы, якія патрабаванні, а затым буду ўжо арыентавацца ў дыпламатычных магчымасцях падтрымкі.

*—Якія Вашыя ўражанні пасля прыезду ў Беласток? Ці асабіста не адчуваеце нейкага дыскамфорту, што былі Вы назначаны консулам якраз у Беласток, а не, скажам, дзе-небудзь у Францыю?*

**І. Хадасевіч:** — Што датычыць Францыі — я там ужо быў, некалькі разоў. Дый наогул давялося мне паездзіць па свеце, пабываць у розных мясцінах. У Беласток я ехаў з асаблівым пачуццём. На маю думку, горад мае свой характар, а калі ўжо гаварыць пра нейкі дыскамфорт, то я яго ўвогуле не адчуваю — з увагі на прыхільнае стаўленне ўлад да адкрыцця консульства, а таксама з увагі на факт прысутнасці тут беларусаў. У Беластоку я адчуваю сябе вельмі добра, адчуваю таксама адказнасць, але і радасць з факту ўдзельніцтва ў гістарычным працэсе, бо адкрыццё консульства — гэта гістарычная падзея і для Беластока, і для Беларусі, і для нашых двухбаковых дачыненняў.

*—Дзякую за размову і ахвяраваны Вамі час.*

Гутарыў і запісаў
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ШКОЛА Ў ДУБІНАХ

Пачатковая школа ў Дубінах знаходзіцца ў трох будынках і ў трох мясцовасцях. Класы I—III — у Барысаўцы і Навасадах, а IV—VIII — у Дубінах. Вучыцца тут аж 186 дзетак. Дырэктар школы, Ніна Валкавыцкая, мае надзею, што гэтую складаную праблему вырашыць новая школа. Плануецца, што ў 1995 г. пачнецца будова.

— Дзеці тут заўсёды будуць, бо ў нас шмат маладых сем'яў. А так на штодзень маем клопаты з грашыма. Ляжаць рахункі за тэлефон, няма фінансаў на ацяпленне будынкаў, словам, прыйшлі цяжкія часы, — кажа дырэктар школы.

Беларускую мову вывучаюць 155 вучняў. Гэты прадмет навучае тут 5 настаўнікаў.

— З беларускай мовай няма ў нас ніякіх праблем. Настаўнікі, хаця і не спецыялісты, добра навучаюць. Усе яны ведаюць літаратурную мову, бо гэта выпускнікі беларуска-польскага педагагічнага ліцэя. Няма магчымасці прыняць на працу спецыяліста, бо няма свабоднага штату. Нават з Куратары хацелі прыслаць нам беларусіста. У школе няма настаўнікаў-спецыялістаў па фізіцы, англістыцы і музыцы. Ад трох гадоў нікога мы не прынялі на працу, бо няма свабодных штатаў. Кадры ў нас старыя. Настаўнікі, якія вядуць урокі беларускай мовы — людзі з вялікім працоўным стажам. Амбіцыяй і працай можна многага дабіцца, — прыходзіць да вываду дырэктар Валкавыцкая.

Аднак не давялося мне пабыць на ўроку, але сустрэлася я з настаўнікамі беларускай мовы. Ніна Гаўрылюк — выпускніца педагагічнага ліцэя, настаўнічае ўжо 24 гады. Беларускую мову выкладае шосты год.

— Многа дзяцей у нас вывучае гэты прадмет, а гэта таксама заслуга настаўнікаў. Маем у школе этнаграфічны куточак, якім карыстаемся на многіх уроках. У VII класе няма падручнікаў, і рэалізаваць праграму не вельмі лёгка. Калі дастану дапаможнікі, то адбіваю іх на ксераксе. На жаль, не ўсе бацькі падыходзяць сур'ёзна да гэтага прадмета. Ад іх многа залежыць. Некаторыя і тут чуюцца ўжо гарадскімі і не хочуць гэтай мовы. Але каб ярка выказваліся, што гэтая мова ім непатрэбная, мы тут не чулі.

Мікалай Федарук — у асвеце працуе 29 гадоў. Беларускую мову выкладае пяты год (у тым 3 гады ў Вітаве). Навучае таксама фізікі і матэматыкі.

— Мы, як настаўнікі трактуем гэты прадмет, як кожны іншы. Было б лягчэй, калі беларуская мова была б абавязковым прадметам. Дзеці і так маюць многа навукі, і калі ёсць дадатковы прадмет, якога можна не вучыцца, то гэта ўскладняе справу.

Надзея Гаган працуе ў школе 24 гады, беларускую мову выкладае пятнаццаты год. Працуючы толькі год настаўніца заўважыла, што ў справе навучання беларускай мовы нічога не змянілася.

— Часам трэба з бацькамі пагаварыць, бо пішуць просьбы вызваліць дзяцей. У гэтым годзе было 4 такія заявы, але дзякуючы настаўніцы, усе дзеці ходзяць на беларускую мову.

Астатнія настаўніцы — Валянціна Паскробка (вучыць 24 гады) і Вольга Грыка, настаўніца з Барысаўкі — выкладаюць амаль усе прадметы.

Дырэктар Валкавыцкая заўважыла, што беларускай мовы хацелі навучаць і іншыя настаўнікі.

— Мне вельмі прыемна, і я вельмі люблю навучаць гэты прадмет, — сцвярджае настаўніца Надзея Гаган.

Яна таксама сарганізавала жартоўную сцэнку (п'есу) „Дзед і баба". Дзеткі з III класа выступалі ў народных строях. П'есу будуць паказваць на бацькоўскім сходзе.

**Дзеці на перапынку**

размаўлялі на мясцовым дыялекце. Расказвалі мне, як даязджаюць з навакольных вёсак. Падабаецца многім, што забірае іх раніцай аўтобус, а пасля ўрокаў таксама адвозіць. А калісь трэба было пешшу дабірацца. „Ніву" чытаюць толькі некаторыя, і гэта час ад часу. Мову беларускую вельмі любяць. Але, як сказалі, карыстаюцца ёю толькі на ўроку і падчас конкурсаў. З настаўнікамі беларускай мовы на перапынках заўсёды трэба размаўляць па-польску. Было вялікае здзіўленне, калі я папытала, ці хацелі б, каб настаўнікі гаварылі да іх па-беларуску і на ўроках, і на перапынках.

**Аднеслі да сябе**

— Гэтыя ўсякія артыкулы ў „Ніве" толькі перашкаджаюць нам у працы. Усё там дрэнна і дрэнна. Ну, як жа гэта дрэнна? Столькі дзяцей вучыцца. Вынікае, што мы тут толькі сядзімо, нічога не робім, карыстаемся дыялектам. А людзі прыходзяць і пытаюцца: „А што тут напісалі?" У нас заўсёды праводзім конкурсы беларускай песні. Як мы заехалі на Гродзеншчыну і выступілі са сваімі вучнямі, то там ад нас „хаваліся". Не маглі зразумець, чаму ў Польшчы можна ведаць так дасканала песні і вершы, — гавораць настаўнікі.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

P.S. Гэта ўжо трэцяя школа, якая аднесла да сябе сітуцыю, апісаную ў артыкуле „Наша родная мова".



*Вучні з Дубін з настаўніцай Нінай Гаўрылюк.*

# ШТО ТАМ У ГАЙНАЎЦЫ?

Ганна Кандрацюк у артыкуле „Тата і мама — беларусы" („Ніва" н-р 51 за 1993 г.), як на далоні паказала прычыну заняпаду навучання беларускай мовы ў школах. Адным словам, там, дзе настаўнікі разам з дырэктарам намагаюцца за яе навучанне, там большасць беларусаў на ўроках засвойвае яе. Але там, дзе няма як беларускую мову ўпіхнуць у план, то проста яе не вучаць. Крывадушнае сцвярджэнне большасці дырэктараў школ, што гэтаму вінаваты бацькі, бо менавіта яны не намагаюцца за навучанне роднай мовы, стала быццам галоўнай прычынай, у якую паверылі і некаторыя дзеячы.

З другога боку ў школе, у якой ёсць, як піша Ганна Кандрацюк, 53% праваслаўных, не можа быць настаўнікам беларускай мовы той, хто абыякава ставіцца да гэтай справы. З артыкула відаць таксама вялікую залежнасць ад дырэктара, хаця б у „спіханні" ўрокаў беларускай мовы на апошнія гадзіны заняткаў.

У гэты трудны час, калі бушуе беспрацоўе і многае залежыць ад капрызу дырэктараў, настаўнік не можа быць пакінуты сам сабе, але мусіць мець падтрымку з боку розных беларускіх арганізацый. Прытым трэба памятаць, што набліжаюцца выбары ў самаўрады і ёсць шанц, каб беларусы ў Гайнаўцы (і не толькі), мелі большую магчымасць дбаць пра свае інтарэсы, у тым ліку і пра навучанне дзяцей роднай мове.

Падыход дырэктар школы на „Мазурах" (адкуль у Гайнаўцы „Мазуры"?) да навучання беларускай мовы таксама характэрны. На яе думку — гэта БГКТ мае дбаць і падказваць дырэктарам, што ім рабіць у справе навучання беларускай мовы. Але калі БГКТ пачне падказваць, то тады падымецца шум, што дырэктар не можа быць залежны ад таварystваў, няхай сабе і беларускіх. Дзеці з Гайнаўкі, горада на акраінах Белавежскай пушчы, не маюць шчасця да дырэктараў — прыхільнікаў беларускасці. Менавіта ад дырэктараў залежыць сітуацыя ў школах, аб чым можа сведчыць прыклад бельскай „тройкі".

Ці ў Гайнаўцы звяліся беларусы, якія падказвалі б уладам горада, як дбаць пра нашыя інтарэсы? Што парабілася з актыўнымі калісьці дзеячамі БГКТ і БДА?

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

# Тэатр „Зьніч" на Беласточчыне

*(працяг; пачатак у 1-м нумары)*

**ГАЙНАЎКА І СТАРОЕ БЕРАЗОВА**
(25 лістапада)

Пасля выступлення ў Беластоку на начлег артыстам трэба было пераехаць у Беларускі музей у Гайнаўцы. Тут іх прывітаў спадар Кастусь Майсеня. Дзякуючы яго прыхільнасці, госці з Менска мелі магчымасць кватаравацца тут трое сутак. Згодна з праграмай, у ліцэі, дзе навучаецца беларуская мова, быў паказаны спектакль пра „Гулівера". У новым школьным будынку варункі да тэатральнай пастаноўкі аказаліся не зусім адпаведныя. Але для калектыву „Зьніча" гэта не вялікая праблема. Пастаноўка адбылася ў прасторнай зале перад вялікай групай ліцэістаў. Адчувалася, на жаль, пэўную абыякавасць гаспадароў. Толькі настаўнік Аляксей Мароз стараўся сардэчна апекавацца гасцямі. Шкада толькі, што пасля спектакля ніхто афіцыйна не падзякаваў за мастацкае выступленне. Акцёры з Менска спадзяваліся на бліжэйшае знаёмства з беларускімі ліцэістамі, але нічога з гэтага не выйшла.

Пасля абеду „Зьніч" завітаў у Старое Беразова. У вясковы новапабудаваны клуб мясцовыя жыхары пачалі ўжо сходзіцца на гадзіну перад выступленнем. Быў марозны вечар і ў прасторным клубе было халаднавата, аднак гэта не перашкодзіла артыстам выступіць. Сагуляліся яны цёплым прыёмам гледачоў, якіх была поўная зала. Стараберазоўцы наладзілі супольную вячэру для гасцей. Арганізацыйнымі справамі выступлення кіравала спадарыня Вольга Рыгаровіч — войт гміны Гайнаўка, якая таксама паглядзела сцэнічную праграму „Зьніча". Пасля вяртання ў Гайнаўку адбылася нечаканая, але вельмі сімпатычная сустрэча. Наладзіла яе спадарыня Вольга Гарустовіч супольна з Мікалаем Бушко (дырэктарам Гайнаўскага дома культуры). Значыць ёсць сардэчныя людзі, якія патрапяць ушанаваць беларускае сцэнічнае майстэрства! Справа не толькі ў святочным пачастунку. У Гайнаўскім доме культуры меў я падтрымку ў правядзенні гастроляў. Добрыя эфекты працы гэтага дома культуры відаць на штодзень.

**БЕЛЬСК-ПАДЛЯШСКІ**
**(26 лістапада)**

Чарговы дзень прынёс неспадзяваныя ўскладненні. Падвяло аўтобуснае кола і па гэтай прычыне ў Бельск прыехалі мы са спазненнем. Запланаваныя сустрэчы ў „беларускіх" школах (ліцэі і „тройцы") адбыліся на дзве гадзіны пазней. У такім выпадку прыйшлося адклікаць вячэрні спектакль у Нарве. Зразумела, што некаторыя зацікаўленыя асобы ў гэтай мясцовасці абурыліся, аднак часам бывае так, што тыпова тэхнічныя аварыі перакрэсліваюць планы. У Бельску калектыў „Зьніч" раздзяліўся на сустрэчы ў двух школах. Спадарыня Галіна Дзягілева выступіла з паэтычнай праграмай перад старшакласнікамі ў „тройцы". Ліцэісты паглядзелі займальны монаспектакль Валерыя Шушкевіча „Дабравесце ад Уладзіміра". У бельскіх школах гасцей прымалі добразычліва дырэктары: Зінаіда Навіцкая (ліцэй) і Васіль Ляшчынскі („тройка"), настаўнікі і навучэнцы. Прыемна, калі адчуваецца пашану да беларускага мастацкага слова.

**ДУБІЧЫ-ЦАРКОЎНЫЯ**
(27 лістапада)

Перад поўднем у суботу госці пазнаёміліся з пабудовай Беларускага музея ў Гайнаўцы, паглядзелі першыя экспазіцыі. Потым развіталіся з сімпатычнымі гаспадарамі і паехалі ў Дубічы-Царкоўныя. Працаўнікі Гміннага асяродка культуры на чале з дырэктарам Іалантай Сохай вельмі добра падрыхтаваліся прыняць у сябе тэатр са сталіцы Беларусі. Умовы да сцэнічнага выступлення былі тут спрыяльныя. Гледачоў было многа: ад малога да старэйшых. Гасцей тут кармілі багата і смачна. Прынялі на начлег у сваім турыстычным асяродку ў Старыне — у маляўнічым куточку Белавежскай пушчы.

**НАРАЎКА І СТАРОЕ ЛЯЎКОВА**
**(28 лістапада)**

Апошнім днём турнэ была нядзеля. Па дарозе ў Нараўку калектыў тэатра наведаў цэрквы ў Дубічах-Царкоўных ды Гайнаўцы і касцёл у Нараўцы. Артыстаў у гэты дзень чакалі яшчэ два выступленні. Першае — прайшло ў шыкоўным новазбудаваным доме культуры у Нараўцы. Тут былі надзвычай добра прыдатныя варункі для сцэнічнага мастацтва. Глядзельная зала ўся была запоўненая гледачамі, якія выступленні ўспрымалі ўзрушана і сардэчна. Нездарма войт Мікалай Павільч сам запрасіў выступаць тут, калі я звярнуўся да яго з просьбай пераначаваць гасцей у гатэлі ў Ляўкове. У Нараўчанскай гміне гасцей прымалі таксама добразычліва. Апошняе выступленне прайшло ў клубе ў Старым Ляўкове. Мясцовыя актывісты заўсёды рады гасцям. Прыемна сустрэцца з такімі людзьмі як Валянціна Грыка (кіраўнічка клуба) ці Васіль Целушэцкі (вядомы педагог і аніматар беларускай культуры). Нягледзячы на стомленасць пасля працавітага турнэ, артысты з Менска доўга вечарам бяседавалі з тутэйшымі за гасцінным сталом.

**ПАСЛЯ ТУРНЭ**

тэатра „Зьніч" у нашых мясцовасцях, аказваецца, што нам патрэбны такія вось выступленні беларускіх майстроў сцэны. Аднак у цяперашнім становішчы ладзіць такія мерапрыемствы цяжка. Я нават сам здзіўляюся, што гастролі прайшлі даволі паспяхова. За гэта трэба падзякаваць усім тым, што дапамагалі падрыхтаваць і правесці турнэ. Апрача раней згаданых асоб актыўна ўспамагалі і іншыя людзі. Фінансава найбольш дапамог Віктар Стахвюк. Да арганізацыі прычыніліся яшчэ Сяргей Нічыпарук з Грабаўца (гм. Дубічы-Царкоўныя) і Валянцін Гушч з Бельска-Падляшскага. Хачу яшчэ выказаць удзячнасць сваёй жонцы і сям'і, якім прыйшлося хіба найбольш адчуць маю актыўнасць у правядзенні гэтага мерапрыемства.

Варта было паказаць мастацтва тэатра „Зьніч" нашым людзям!

**ЯН МОРДАНЬ**



© PDF: Kamunikat.org 2016

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка
## старонка для дзяцей

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Пеця, як ты думаеш, навошта чалавеку вушы?
— Каб бачыць.
— Як гэта?
— А як бы я насіў акуляры, калі б у мяне не было вушэй?

* * *

— Ты навошта выдзіраеш старонкі з кнігі?
— Каб адну памылкова не прачытаць двойчы.

* * *

— Тата, рашы задачу.
— А сам ты над ёй не думаў?
— Думаў.
— І што ты прыдумаў?
— Што без цябе мне яе не рашыць.

* * *

— Што мы бачым над галавой у пагодны дзень? — спытаў настаўнік.
— Блакітнае неба, — адказаў вучань.
— А ў дождж?
— Парасон.

* * *

— Мама! Міша муху праглынуў! Але не бойся, я яму атруту на мухі даў.

* * *

У дырэктара школы запыталіся:
— У вас у школе заўсёды так холадна?
— Не, толькі зімой.
— А чаму ў класах цёмна?
— Дык жа ў нас вячэрняя школа.

Падборку зрабіў
ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ



*Вучні з Пасынак размаўляюць пра экалогію.* Фота Г. Кандрацюк

### НАСВІСТВАЕ СЫНОЧАК ТОЛЬКІ

— З нашым сынком няма бяды, —
Хваліць свайго Лявона маці. —
Насвіствае чамусь заўжды,
Калі ён вучыцца у хаце.

— Дык працавіты ваш сынок, —
Кажа суседава Антолька.—
А наш страшэнны абібок,
Сядзіць, насвіствае, ды толькі.

### ЗМАГАР-ГУЛЬТАЙ

— І як тут жыць, пытаюся, —
Скардзіўся гультай. —
Усё жыццё змагаюся,
Хоць ляж ды памірай.

Стаўся ў змаганні волатам,
Змагаюся кругом:
Да абеду — з голадам,
А ўжо пазней — са сном.

### ХАЦЕЎ БЫ БЫЦЬ ПЕНСІЯНЕРАМ

Валерыка спытаў Марцін:
— Скажы мне, дарагі Валерык,
Кім ты быць хочаш у жыцці?
Той адказаў: — Пенсіянерам.

— Чаму вось выбар твой такі?
— Выбар жа мой зусім харошы.
Я без натруджвання рукі
Задарам атрымаю грошы.

### ІВАН-БАЛВАН

Дзеці ляпілі балвана
І ён ужо стаяў пад плотам.
— Не холадна вам, гамана? —
Прахожы праявіў турботу.

— Нам цёпла, — адказаў Тарас, —
Магчыма, холадна Івану.
— Каторы ж гэта сярод вас?
— У балвана ён закачаны.

### БУДУ ПАДЫМАЦЬ НА НОГІ

— Плануеш, Андрэй,
У жыцці ты многа.
— Хачу я людзей
Падымаць на ногі.

— Лекарам, відаць,
Станеш свайго люду?
— Не, рамантаваць
Будзільнікі буду!

### КАЛІ МАКАР МАЕ ЧЫСТЫ ТВАР?

— На што глядзіш, Макар,
Калі ўмываеш твар, —
Каб мог пераканацца,
Што досыць умывацца?

— Заўжды кірую зрок
На свой я ручнічок.
Забрудзіцца страшэнна —
Памыў я твар нядрэнна.

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

*(працяг з папярэдняга нумара)*

**9**

### „Гракі" і „шпакі"

Гульня падобная да папярэдняй, але ўмовы крыху іншыя. Адзін з „гракоў" выходзіць з шарэнгі на крок і паказвае галінкай на любога „шпака". Той павінен назваць слова з чатырох літар, акрамя слоў *грак* і *шпак*, пакуль робіць два крокі насустрач „граку", і тады гэты „грак" „пералятае" ў каманду „шпакоў" і ўдзельнічае далей у гульні як „шпак". У сваю чаргу, „шпак", які не знайшоў патрэбнае слова, калі на яго паказаў „грак", „пералятае" ў каманду „гракоў". У кожнай камандзе свая галінка-ўказка, якая перадаецца чарговаму „нападаючаму".

Выбывае з гульні той, хто памыліўся ў колькасці літар, назваў не тое па форме слова, але ненадоўга, толькі да першай памылкі „грака" або „шпака", месца якога ён займае. Гэта гульня больш за папярэднюю падыходзіць да невялікай колькасці ўдзельнікаў.

### Творы і аўтары

Кніжкі чытаюць усе, але ці кожны назаве аўтараў прачытаных твораў? Або іншыя творы любімага аўтара?

Гэта можна праверыць пры выкананні аднаго задання: запішыце прозвішчы аўтараў у алфавітным парадку, а побач з прозвішчамі — назвы твораў, напрыклад:

*Багдановіч Максім. „Зімой". „Перапісчык".*
*Бядуля Змітрок. „Малыя дрывасекі". „Салавей" і г.д.*

Не забудзьцеся, што парадак можа вырашаць не толькі першая, але і наступная літара.

Аўтар — бал, твор — таксама бал; названа сапраўднае прозвішча аўтара (пры псеўданіме) — дадаткова два балы.

### Тэлефон

Гэта варыянт гульні ў „сапсаваны тэлефон": словы трэба перадаваць па „ланцужку" хутка, выразна, і „тэлефон" не павінен „псавацца", бо „тэхніку" псаваць нельга (вінаватага чакае пакаранне).

Удзельнікі сядзяць вакол стала або стаяць шарэнгай (на адлегасці паўкроку).

*МІРА ЛУКША*

# СТРАЖНІК СТАРОЕ СЦЕЖКІ

Выкапалі з Буяўкі чорны мораны дуб. Гэта тады было, як яе засыпалі, яе, калісьці небяспечны ў час вясенніх разводдзяў прыток Нарвы. І падрэчкі Чарнушка і Пчолка зніклі ўжо пад роўняддзю возера. З Буяўкі месцамі дзе толькі роў застаўся, з жабурыннем і раскай на ўстаялай пеністай вадзе, а дзе зараслы сітнягом сухі паплавок. Хто яшчэ ведае, дзе была Буяўка, дзе ў гэтых месцах страшыла да вайны і пасьлей, дзе стаяў жыдаў шынок, што потым спаліўся, а хто не ведае — то і нашто такому пра гэта даведвацца, пытацца?.. Мораны дуб, якога не ўзяла ні сякера, ні піла, падцягнулі пад Марушку, дзе ўжо ляжалі стракачы вывернутых соснаў з задзертым карэннем з кавалкамі зямлі, жоўтыя звалы адсунутага з раўнянай дарогі пяску, суглінкаў, што парасталі ўжо зеллем — лесам горкага драсёну і лебяды, жалязякі і счарнелыя рэшткі будынін з паламанымі ваконнымі рамамі, пакінутыя будаўнічымі вала і станці помпаў на таме.

Паўз гэтай дарогі ўрочышча Марушка беляхцела анемонамі, з кожнай вясною драбнейшымі. Люцынка доўга шукала вядомых ёй сонечных палянак, дзе з іржавае травы першымі вылузваліся валахатыя сончыкі. Дзяўчынка заўважыла, што з кожным годам, адкуль сама ўжо прыязджае да дзеда Ляксандра і пачалі раптам цямнець яе белыя дагэтуль валасы, аколіца стала зусім іншая, не тая, што раней, з вяковымі дарогамі, якія пільнавалі мяжы Княства, з кшталтам рэчкі, што пасля разводдзя вярталася ў свой бераг, дрэвамі, якія самотна вызначалі межы палеткаў... Цяпер, нават калі Люцынка спазнілася дзесяць гадоў, дзед неахвотна дазваляў ёй адной выбірацца на вал над штучным возерам, якое аблюбавалі ўжо дзікія птушкі — рух на дарогах пабольшаў, хаця перасталі ўжо паяўляцца вялізныя грузавыя машыны з прычэпамі з гурбамі пяску і экскаватары. Люцынка цяпер не заўсёды казала дзеду, што возьме ровар і паедзе кудысьці; не меў замнога дзед Ляксандар ужо для яе часу, адкуль у ягоным доме паявілася новая бабка, такая маладая, як Люцынчын татка. Пані Ганначка павыкідала за куратнік старыя бабуліны крэслы з мяккімі падушачкамі, дыван у макі — што вісеў у спальні — закінула на бэльку на падстрэшку... Прывезла з сабою прыгожы абедзенны сервіз (схавала ў шафу шлюбны бабчын посуд, маляваны ў лясныя званочкі, з якога шмат філіжанак пабілася), прыгожых сукенкі і многа кніжак. Дзед Ляксандар, прыгожы, сівавалосы, значна памаладзеў пры пані Ганначцы. Новая бабка ўсё нешта пісала, стукала начамі ў машынку ў сваім пакоі на паверсе дома, але Люцынка не змагла даведацца, над чым яна так працуе. Калі запыталася, ці гэта будзе кніга з казкамі, пані Ганначка толькі ўсміхнулася і сказала:

— Гэта не твая справа. І, будзь мілая, ніколі больш не заходзь у мой пакой.

„Яе пакой" быў калісьці бабчыным, улюбёным Люцынкай, з камінам, шырокай канапай, з дыванам на ўсю падлогу, дзе дзяўчынка любіла вылежвацца ў зімовыя вечары са старым выжлам Бобам, а бабка чытала ёй кнігі пра падарожжы. Для гэтых вечароў Люцынка любіла прыязджаць да бабы Зіны і дзеда. Цяпер, калі не мела сюды доступу, адчувала сябе чужой у доме, пакрыўджанай дзедкам, але найбольш балела тое, што баба Зіна ўзяла да памерла, знікла з жыцця, а разам з ёю рэчы, пахучыя чабаром і сухоткамі. Люцынка калісьці забірала ў горад бабуліны шпількі да валасоў — доўгая бабіна каса мацавалася на галаве дзесяткамі шпілечак — каб мець з сабою нешта, што было б згадкай жаноцкасці і матчынага цяпла. Люцынчына мама была далёка, прысылала толькі прыгожыя і дарагія цацкі і грошы тату. Бацька адкладаў грошы на Люцынчыну кніжку. Чула, як казаў дзеду, што не хоча ні граша ад Аліны і хай яна з той Амерыкі не вяртаецца, калі выбрала такое жыццё. Люцынка ведала, што мама абавязкова прыедзе да яе, разам паедуць у вёску, усе будуць цешыцца і назаўсёды застануцца разам... Матчыны лісты прывозіла перачытваць бабулі; не было іх шмат, як хацелася б,



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

Вядучы шэпча першаму справа ад сябе слова (спалучэнне слоў), той робіць паўкроку і перадае наступнаму і г.д. Апошні вымаўляе слова гучна, і выяўляецца, што... ніхто „тэлефон" не сапсаваў, і гэта вельмі добра. Калі ж выявіцца, што слова не тое, якое было сказана вядучым, няцяжка знайсці вінаватага: кожны памятае, якое слова ён пачуў і якое перадаў. Толькі праверку трэба пачынаць у адваротным парадку — не ад вядучага, а ад апошняга.

Вінаватага „карае" агульны „суд". Можна „прымусіць" яго спяваць, танцаваць і інш. Можна даць яму заданне прыдумаць якую-небудзь гульню. Можна — калі памылка ўзнікла з-за яго няправільнага вымаўлення — даць яму пэўны тэрмін для адбыцця „пакарання", і за гэты тэрмін ён павінен навучыцца правільна вымаўляць, выразна артыкуляваць словы; калі няўважліва слухаў — патрэніраваць сваю ўвагу. Тэрмін можа быць ад некалькіх дзён да некалькіх тыдняў, але вінаваты можа скараціць яго, выканаўшы „прысуд" датэрмінова. Можна „пакараць" і больш лёгка: на наступны тур паставіць яго апошнім.

Можна, безумоўна, гуляць і ў „сапсаваны тэлефон" — для адпачынку, дзеля жарту, але тут правіла іншае. „Псаваць" першапачатковы выраз можна толькі сугучным, падобным (ідзі сюды — нясі вады — ясі куды і г.д.), інакш не будзе смешна. А не здолеў хутка падабраць патрэбнае, што ж, перадай, што пачуў, магчыма, таварыш будзе больш дасціпным. Праверка ідзе ад першага.

Варыянты:

1. Два вядучыя, набраўшы аднолькавыя па колькасці каманды, маюць два загадзя складзеныя спісы слоў і словазлучэнняў — для абедзвюх каманд яны аднолькавыя. Дзве шарэнгі становяцца спінамі адна да адной, адлегласць паміж імі не менш як тры-чатыры крокі. Вядучыя адначасова перадаюць першым у шарэнгах адно слова; як толькі яно дайшло да трэцяга, перадаюць другое, затым трэцяе і г. д. — у спісе можа быць пяць—дзесяць слоў і словазлучэнняў. Апошні шэпча слова суддзі, які стаіць у канцы кожнай шарэнгі і ў сваім спісе адзначае, якое слова дайшло да яго. Перапытваць і паўтараць не дазваляецца — за кожны такі выпадак каманда штрафуецца. Хоць гульня ідзе ў хуткім тэмпе, да суддзяў кожнае слова можа дайсці не адначасова — не гэта важна: галоўнае — каб „тэлефон" не быў „сапсаваны", і тады за кожнае слова — ачко камандзе; за памылку або парушэнне правіла ачко здымаецца; за хуткасць — ачко дадатковае.

Пры значнай колькасці ўдзельнікаў шарэнг можа быць больш і — адпаведна — вядучых, суддзяў, спісаў.

Калі гульня праводзіцца не на ўроку, можна зрабіць некалькі тураў, ускладняючы кожны з іх па якасці і колькасці слоў і словазлучэнняў. Хто „сапсаваў тэлефон" — выбывае, і чым менш застаецца ўдзельнікаў, тым вастрэй барацьба за першынство. За кожнага выбыўшага — штрафное ачко камандзе, але можна павялічыць канчатковы лік хуткасцю пры высокай дакладнасці; за хуткасць без памылак ачкі дадаюцца.

2. „Тэлефон" можа „глытаць" часткі сказаў, словы, часткі слоў, прыстаўкі і суфіксы, прыметнікі ці лічэбнікі, назвы твораў і прозвішчы аўтараў, радкі з вершаў і інш. Напрыклад:

*— Алё, Валодзя, ці няма ў цябе... пяць лыжак заціркі?*

Валодзя, вядома, зразумеў, што не зацірку ў яго просяць, і адказвае:

*— Апавяданні Змітрака Бядулі? Не, на жаль няма* (або — *ёсць, але дома). Алё, Каця, перадай Ігару ... мы... у тыле ворага.*

Каця можа адказаць, што перадасць Ігару *аповесць „Мы з Санькам у тыле ворага"*, як толькі дачытае. А калі яна не чула пра такую кніжку, то Валодзя назаве і твор, і аўтара, а Каця траціць ачко.

*(працяг будзе)*

# ЧАРОЎНАЯ ПАДУШАЧКА

Даўным-даўно ў адной вёсцы на высозных таполях жылі буслы. І людзі заўсёды радаваліся, гледзячы на іх, дапамагалі будаваць гнёзды — усцягвалі на таполі колы ад калёс.

Неяк навалілася на вёску бяда. Дзеці плачуць, у ложках круцяцца, ніяк заснуць не могуць. Тут дарослыя і здзівіліся: набілі падушачкі мяккім гусіным пухам. Прылеглі дзеці, але зноў не спіцца ім, валтузяцца, капрызяць, як хворыя. І ні лекі, ні калыханкі не дапамагаюць. Зусім бацькі разгубіліся, не ведаюць, што рабіць.

Дазналіся пра бяду буслы. Выцягнулі яны са сваіх крылаў па пёрку і аддалі людзям. А пер'е ж у іх незвычайнае. Гэта пер'е птушак-вандроўнікаў, якія шмат дзівоснага нагледзеліся, шмат выпрабаванняў вытрымалі ў час пералёту. Уклала кожная маці чароўнае бусліное пёрка ў дзіцячую падушачку. І адбыўся цуд: як толькі дзіця датулялася да яе шчакою, дык адразу ж засынала. І пачынала ў сне лятаць, нібыта птушка, над цудоўнымі мясцінамі, якіх ніколі раней не бачыла.

З таго выпадку і навучыліся людзі лятаць у сне, а потым і наяве. Кажуць, славуты беларускі касманаўт Пётр Клімук якраз родам з вёскі, аблюбаванай буслямі.

А ў вас ёсць чароўная падушачка?

**ІЛЬЯ ШАХРАЙ**

*СТАНІСЛАЎ ВАЛОДЗЬКА*

**ВАВЁРКІ**

Пахапаўшы з неба<br>
Ўсе арэхі-зоркі,<br>
Круцяць сонца кола<br>
Вёрткія вавёркі!

**ЯК НА БАЛІ**

Як на балі загулялі,<br>
Разам песню завялі<br>
Пчолы, восы і чмялі —<br>
Шмат нектару здабылі!

**ДУМКА КОНІКА**

У траве<br>
Зялёнік-конік<br>
Вельмі доўга<br>
Думаў сёння:<br>
„Мне б такую<br>
Афарбоўку,<br>
Як у божае кароўкі!<br>
Сталі б называць,<br>
Ці не<br>
Божым конікам<br>
Мяне?"

# ЛАГАГРЫФ

1. Сталіца Нямеччыны, 2. дзяржава, у якой жывуць туркі, 3. частка нагі з важным суставам, 4. тата, 5. выдатны беларускі гімнаст, алімпійскі пераможца з Барселоны, 6. месца сярод лесу, дзе няма дрэў.

Вылучаныя літары складуць назву беларускага народнага танца або расліны, найбольш папулярнай у Беларусі.

Адказ на лагагрыфы з нумара 50 — „Лявоніха", з 51 — „веласіпед".

Узнагароды атрымоўваюць: **Магдалена Гольчанка** (н-р 50) і **Адрыян Гольчанка** (н-р 51) з Бельска-Падляшскага.

# ЛІЧЫЛКА

Літара Л прыдумала лічылку:

— Ляцелі летам лебедзі ля лесу. Люлялі на крылах ліліпутаў. Ледзь селі лебедзі на лузе — сталі лічыць ліліпутаў.

Ліначка, Леначка, Лісачка,<br>
Лушачка, Лорачка, Лерачка,<br>
Лаўрэнка, Лашурка, Лаконка.<br>
А дзе наш любімы Лявонка?

Пабегла Л шукаць дзяцей. Ля лавачкі Люба, Лёня, Ліля, Лера, Лёва, Лора, Лона, Лена, Ліна, Луша.

Люба люляла лялку Алісу.

Лёня лавіў ластаўку.

Ліля і Лена лейкай палівалі лісцікі на ліпе.

Лера і Ліна ляпілі з гліны лася.

Лёва „лётаў" на легкавіку.

Лора лячыла лякарствам легканогую Лайку.

Лона карміла лісліўую ліску.

Луша біла лынды.

Падбегла да лавачкі літара Л, хваліцца:

— Лічылку вясёлую прыдумала.

Л паставіла ланцужком дзяцей, пачала лічыць іх вясёлай лічылкай.

„Лявонкам" вылічылі Лёву. Пачалася вясёлая гульня ў хованкі.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

# АДГАДАНКА

*Якія з 21 фрагмента падыходзіць да малюнка ўверсе?*

але чулыя словы, якія паўтарала за лістом баба Зіна, гучалі, быццам сапраўды казала іх уголас мама.

Люцынка не змагла прыехаць на пахаванне — у студзені ляжала ў бальніцы. Магла б адляжаць сваю воспу і дома, але бацьку трэба было неадкладна на два тыдні ехаць у камандзіроўку, на нейкія курсы.

У красавіку ў дзедавым доме паявілася пані Ганначка. Люцынка памятае: яна ўвайшла ў кухню (дзе малая, разжаленая здрадаю бабкі Зіны, хліпала над кубкам гарачага малака, што ёй наліў дзед Ляксандар, выцірала вочы быццам ад пары), пахучая чымсьці салодкім і мяккім, стала над сталом, спахмурнела і сказала памалу, выціскаючы словы з чырвоных вуснаў:

— А хто гэта такі прыехаў у мой дом?

— Гэта не твой дом! — дзяўчынка адпіхнула кубак. — Гэта дом маіх дзеда з бабай, і мой!

— Ой, прыйдзецца нам удакладняць адносіны, бачу. Алесь, хіба ты забыў прадставіць мне гэтую маладую даму? — пані Ганначка ўсміхнулася да дзеда і ўскудлачыла яго белы чуб. — Я ж табе казала — ніякіх дзяцей!

— Гэта мая ўнучка, Люцына.

— Такая вялікая? Распусціў ты яе, бачу, мой мілы! Ці прыйдзецца мне выхоўваць чужых дзяцей? Не думала пра такое, кідаючы для цябе працу ў сталіцы!

— Бачыш, жонка пакінула сына, ён... у яго новая сям'я... а з гэтаю штосьці рабіць жа трэба... — залапатаў Ляксандар, уцякаючы зрокам ад унучкі. — Прыязджае сюды, на выхадныя, прынамсі да...

Люцынка кінула кубачак. Не памятала, як выбегла з дому. Ляцела па новай жоўтай дарозе, паабапал якое ў цёмным лесе нізам бялелі анемоны. Веснавы малады вечар насунуўся хутка, пацягнула сырым холадам. Дзяўчынка агледзелася ўжо амаль над возерам. Вецер пранізваў да касцей. Баялася ісці лесам, але там было цяплей. Прытаілася паміж будкамі, за растапыранымі каранямі сасны з вялікім навісам зямлі, каля чорнага дуба, якога безуладнае цела выставала з-пад руінаў. Пра гэты дуб столькі расказваў дзед Ляксандар! Як ён рос, магутны, вялікі кароль дрэваў Белавежскае пушчы, як прыходзіў пад яго адпачываць пан Белы Воўк, стражнік старое сцежкі, што абяртаўся ў лесуна і кахала яго жанчына, што прыручала дзікіх звяроў... І як потым дуб рашыў памерці, бо бачыў смерць лесу, а пераў ужо ўсіх, але смерць не хацела прыходзіць, бо не на яе моц была сіла дуба... І не мог дуб сам учыніць сабе смерці. І рашыў тады Пярун даць яму падмогу, і зваліўся дуб. І заліла яго вада, што падышла на Сухі груд, і на доўгія стагоддзі зняме дуб, пачарнеў, скамянеў. І дасталі яго з ягонае магілы брудныя рабочыя, што капалі тут возера-магілу рэчкі, і зламаўся тлусты ад алею зуб пілы, і гартаваная агнём і вадою няшчадная сякера. І натужыліся, і пакацілі дуб рабочыя на сметнік, бо да нічога ён не быў ім прыдатны, і засыпалі ягонае ложа зямлёю. Дзед Ляксандар ведаў усё. І казаў дзед унучцы, што не трэба дубу спачуваць, бо і ён не шкадуе нас, што жывем так мала, што не пабачым таго, што пабачыў ён, і не адпакутуем столькі, каб нам адхацелася жыць.

— Не хачу быць вялікай. Не буду! Я пamру! — заплакала Люцынка ў дзедавых абдымках.

Шукаў яе на ровары, задыханы; здалёк бачыла хісткае святло ад ліхтара, што сунулася ад хутароў. Ведала — ён праедзе. Хацела памерці да таго моманту, пакуль ровар не наблізіцца да месца, дзе схавалася, і дзед з плачам кінецца яе ратаваць, шкадаваць, і будзе туліць яе халоднае цела да сваіх шырокіх цвёрдых грудзей, гладзіць па пацямнелых валасах, і дзедавы слёзы будуць капаць на яе мёртвы нерухомы твар...

— Дзедку, тут так халодна... Дзедку, я яшчэ не нарадзілася, мяне яшчэ няма, — прашаптала Люцынка ў глыбокай цемры, з далонькаю ў дзедавай руцэ.

Ішлі па старой сцежцы. Далёка азываліся сабакі. Лес маўчаў, не дыхаў, слухаў іхніх крокаў і шоргату колаў. На красавіцкім небе не свяцілася ні адна зорачка.

За імі застаўся ён, дуб, пільнаваць сваё месца. Пераджыў, павалены, яшчэ адно жыццё.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ЧАРГОВАЯ КНІЖКА САКРАТА ЯНОВІЧА

*Sokrat Janowicz. TERRA INCOGNITA: BIAŁORUŚ. 93 ss. Białystok, 1993. Redaktor Witalis Łuba.*

Як вытлумачыць тэрмін „беларуская літаратура"?

Ну, з „літаратурай" збольшага зразумела а, дакладней, незразумела: паняцце гэтае настолькі вытанчанае, што схарактарызаваць яго дасканала амаль немагчыма. Аматар дакладных вызначэнняў, зрэшты, можа ўзяць з паліцы якую-небудзь энцыклапедыю і прачытаць нешта накшталт: „Літаратура — твор пісьменнасці, адзін з відаў мастацтва, які..." і гэтак далей. Але я не прафесійны філолаг і не маю схільнасці да дакладных вызначэнняў у адрозненне, скажам, ад рэдактара **Terra incognita** Віталя Лубы — прынамсі, пра акрэсленне тэрміна „літаратура" ён зможа расказаць лепш за мяне.

Цяпер — наступнае слова: „беларуская".

Ці існуе, скажам, польская літаратура, напісаная па-чукоцку? Ці расейская, напісаная па-румынску?

Не.

Літаратура мае непасрэднае дачыненне да мовы, на якой ствараецца. Ёсць, безумоўна рэдкія выключэнні — накшталт „Уліса" Джойса, але пра гэта лепш распавядзе Ян Максімюк. Да таго ж, яны толькі пацвярджаюць агульнае правіла.

Дык вось да чаго такая доўгая прэлюдыя: у новай кнізе Сакрата Яновіча да беларускай літаратуры можа быць дапасаваная толькі апошняя, пятая глава — „З былога", бо ўсё астатняе напісана папольску, а, значыцца, мае дачыненне не да беларускай, а да польскай літаратуры. З гэтае прычыны абмяжуюся сваімі ўражаннямі адно аб гэтай частцы.

Не ведаю, як у каго, але асабіста ў мяне па прачытанню вызначыліся дзве аналогіі з, а менавіта — з Янкам Брылем і Вячаславам Адамчыкам (асабліва з апошнім). Маю на ўвазе перад усім манеру пісьма: нетаропкую і „апавядальную", найлепшае вызначэнне якой — **маналог**. Шукаючы надалей *дакладных вызначэнняў*, „З былога" можна назваць не аўтабіяграфічным нарысам, не характарыстычнымі замалёўкамі, а менавіта — апавяданнем-маналогам (і па форме, і па зместу): ты сядзіш у гасцях, п'еш каву, а за сталом насупраць — апавядальнік; ён нетаропка, адхіляючыся ў падрабязнасці, расказвае пра нешта дарогае, духоўна-інтымнае, а ты ўважліва слухаеш... Пры гэтым сама тэма аповяду можа быць якая заўгодна — ці то пра дзяцінства, бацькоў, радавод, суседзяў (як апавядае Сакрат Яновіч), ці нават пра нешта іншае... Бо галоўнае — „не пра што", галоўнае — „як"... Сакрат Яновіч піша пра тое, што добра ведае, пра тое, што яму дорага (зрэшты, гэта найдаражэйшае ў кожнага чалавека) — дзіцячыя ўспаміны. І з гэтага аповяду, часам фрагментаванага, вымалёўваецца карціна даваеннага і паваеннага жыцця беластоцкага мястэчка — жыцця, якое цяпер ужо забываецца. Пэўна, гэта і ёсць тая самая „эпічнасць", пра якую так часта згадваюць літаратурныя крытыкі, аналізуючы тую ж „Чужую бацькаўшчыну"... Пераказваць змест „З былога" я не буду — па-першае, гэта немагчыма, а па-другое — няма сэнсу. Найпрасцей проста прачытаць самому.

Ну, а пра ўклад Сакрата Яновіча ў польскую літаратуру — астатнія чатыры раздзелы кнігі — лепш за мяне напіша хто-небудзь іншы. Напрыклад — Teresa Zaniewska...

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

# У ВАРШАВЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Пра Фонд Ашрам Анавін (Ashram Anavin — Экуменічны кляштар мастацтва) Януша Багуцкага і Ніны Смоляж упершыню пачуў я леташняй восенню прынагодзе арганізаванага імі мерапрыемства „Вялікае княства Літоўскае". Аднак пазнаёміцца з іхнай дзейнасцю змог я толькі ў пачатку зімы і трэба прызнацца, што быў я прыемна здзіўлены.

У снежні 1993 года Фонд Ашрам Анавін арганізаваў у Доме мастака ў Варшаве цыкл штодзённых мерапрыемстваў азагалоўленых „Вячэра — інакш Бачнае і Нябачнае". Менавіта на адным з такіх вечароў „Вячэры..." давялося пабываць і мне. 19 снежня гаспадаром „Вячэры..." была бельская „Маланка", а мерапрыемства называлася „Беларуска-ірландскі вечар". Чаму акурат беларуска-ірландскі — вось гэтае пытанне не дае мне спакою нават і сёння. Нат сам спадар Багуцкі на мае заўвагі адносна такога спалучэння, ці то не хацеў, ці то не мог адказаць і паясніў мне толькі, што гэта звычайная выпадковасць...

Але дарэчы. Увесь снежаньскі цыкл „Вячэр..." у асноўным прысвечаны быў Калядам, калядным святкаванням у розных формах і ў цэлым спектры іхнай нацыянальна-рэлігійна-сацыяльнай афарбоўцы. Ад Святога Міколы, цераз Вечар нізка лятучых Анёлаў і каляд для дзяцей да беларускіх святочных абрадаў.

Гаспадар „Вячэры..." з 19 снежня — „Маланка" — падрыхтавалася да сваёй ролі як след. Шматлікія варшавякі, ці не ўпершыню, пабачылі, як у наяўнасці выглядаюць Каляды на Беласточчыне. Каляровая Звязда, сена пад абрусам, ялінка і снапок жыта ў куце мелі адлюстраваць святочны настрой. Спадарыня Люба Гаўрылюк расказала прысутным аб тых усіх звычаях, якія характэрныя толькі беларускім вёскам, аб стравах, якія руплівыя гаспадыні рыхтуюць на святы, аб калядоўшчыках і шчодрым вечары, дзявочых варажбах і юнацкіх фокусах. „Хто ведае, — пазней сказала пані Люба, — мо нехта з варшаўскіх дзяўчат паспрабуе вываражыць сваё шчасце па-беларуску". Зразумела, што на стале не забракавала калядных страваў, спецыяльна прывезеных на гэтую ўрачыстасць з беларускіх вёсак, між іншым, і з Градалёў — роднай вёскі кіраўніка „Маланкі" Сяргея Лукашука. Сапраўды, на многіх прысутных беларускія калядкі і перш за ўсё святочныя стравы надоўга застануцца ў памяці. Не часта такое сустрэнеш. Адна старэйшая пані пасля сустрэчы ўзяла крыху сена з-пад абруса. „Занясу дахаты, хай жа будзе на добры ўспамін, — сказала, — я ўпершыню была на такой калядзе, хаця раней крыху чула пра вашы звычаі".

Далейшая частка мерапрыемства — ірландская — аказалася быць надта сціплай у параўнанні да беларускай. Танцавальная група гурту „Open Folk" прадставіла некалькі кельцкіх танцаў, а сімпатычныя дзеўкі пачаставалі прысутных пончам. Тым не менш такое супастаўленне цалкам рознага фальклору мне асабіста спадабалася. І не толькі мне. Сведчыць гэта пра нейкае адраджэнне фальклору, наогул, ці бо вяртанне да яго ў цяперашнім зматэрыялізаваным свеце. Калі мы вярталіся ў Беласток, хвалявалі мяне дзве праблемы: Ці магчыма, каб падобную імпрэзу сарганізавала ў Беластоку польская ўстанова — усё роўна, якая? Чаму якраз гэты вечар называўся беларуска-ірландскім? Што спалучае беларусаў ды ірландцаў? Паколькі на першае пытанне адказу доўга не шукаў — у Беластоку гэта немагчыма, дык другое пытанне мучыць мяне і сёння. А мо хто з вас ведае, што спалучае беларусаў і ірландцаў?

**ЮРКА ЛЯШЧЫНСКІ**

## БІБЛІЯФІЛЬСКІЯ ЦІКАВІНКІ:

### Два (а можа і тры) варыянты „Уліса"

У снежні 1993 года ў Беластоку выйшла друкам першая кніга перакладу на беларускую мову рамана ірландскага пісьменніка Дж. Джойса „Уліс". Аўтарам перакладу з'яўляецца былы журналіст нашай рэдакцыі Ян Максімюк, а рэдактарам кнігі — супрацоўнік віленскай „Нашай Нівы" Сяргей Шупа. Кніга цікавая перад усім гісторыяй свайго ўзнікнення — гаворка ідзе вядома, пра пераклад — бо наконт зместу рамана існуе багатая літаратура, якая выдатна дапаможа зразумець кнігу і, што важнейшае, прачытаць яе.

З „Уліса" па-беларуску даведваемся, што выпуск кнігі фінансавала польскае Міністэрства культуры і мастацтва, а працу перакладчыка спансаравала фірма „Амега". Кніга, аднак, у сваім канчатковым варыянце, замоўчвае справу выдаўца — няхай сабе і фармальнага. У гэтай справе, паводле неафіцыйных дадзеных, на этапе друку кнігі ўзнікла рознагалоссе, у выніку якога выданне ўбачыла свет у сама менш двух варыянтах. Паводле аўтара перакладу „Уліс" быў складзены ў друкарню ў наступным выглядзе — чацвертая старонка кнігі паведамляла: „Выданьне Беларускага Літаратурнага Аб'яднаньня „Белавежа". Асноўная маса тыражу выйшла ў свет аднак без гэтай інфармацыі. Некаторае, даволі цьмянае святло, на гэтую дзіўную акалічнасць кідае факт, што быццам бы па дарозе быў яшчэ адзін варыянт беларускага „Уліса" — „Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Можна тут толькі здагадвацца, чаму не пайшла ў свет апошняя інфармацыя — увесь пераклад адрэдагаваны паводле дарэформеннага правапісу, а значыць у даведцы „Бібліятэчка Беларускага Літаратурнага аб'яднаня „Белавежа" тры арфаграфічныя памылкі (брак мяккага знака і назва, напісаная з малых літар). Для чытача, які захоча прачытаць пабеларуску „Уліса", гэта не надта істотна, але можа мець пэўнае значэнне для бібліяфілаў і складальнікаў кнігазбораў. Нельга выключыць, што першая кніга перакладу „Уліса" на беларускую мову існуе на чытацкім рынку ў трох згаданых тут варыянтах. Хаця, як было гэта зазначана на пачатку, асноўны тыраж выйшаў у свет без інфармацыі пра выдаўца.

**(яя)**

# ЯГО ВЕРШЫ ЧЫТАЮЦЬ

14 снежня мінулага года — як пісаў ужо Славамір Кулік — Дубічы-Царкоўныя наведаў вядомы беларускі паэт Віктар Швед. Ён правёў аўтарскія сустрэчы з вучнямі дубіцкай школы: адну са старэйшымі, другую — з малодшымі. Сустрэчы мелі адкрыты характар і выклікалі вялікае ўражанне ў прысутных. Ён расказаў пра свой жыццёвы і творчы шлях. Некаторыя эпізоды з гэтага шляху варта прыпомніць.

Нарадзіўся Віктар Швед у 1925 годзе ў вёсцы Мора. Вучыўся спачатку ў мясцовай 4-класнай пачатковай школе, пасля ў сямікласнай у Орлі. Пры саветах вучыўся ў 10-годцы, таксама ў Орлі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў. Восенню 1944 г. распачаў навуку ў Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, пасля вучыўся ў Бельску-Падляшскім. Далейшую навуку прадаўжаў у Варшаве. Было цяжка, бо тады студэнты не атрымоўвалі стыпендыяў, і Віктар Швед быў вымушаны вучыцца ў вечаровай школе, каб днём зарабляць грошы. Хаця было цяжка, знаходзіў яшчэ час пісаць вершы. Пісаў ён іх і ў дзяцінстве — відаць, меў натуральны талент. У 1956 годзе паўставала Беларускае грамадска-культурнае таварыства, пачаў выходзіць тыднёвік „Ніва" і паэт стаў актыўным дзеячом. Калі ўзнікала літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Віктар Швед стаў яго членам а заадно і старшынёй. З'яўляецца таксама членам Саюза польскіх літаратараў. Ад завяршэння навукі аж да адыходу на пенсію ў 1988 г. працаваў ён у Варшаве ў выдавецтве „Książka i Wiedza". Сямейнае жыццё ў Варшаве не склалася і калі з гэтым горадам перастала звязваць яго і праца, пераехаў ён у Беласток, у сваю „Малую Айчыну". Дзесяць гадоў жыў ён сам, пасля ажаніўся — мае трохгадовую дачушку.

У паэтычным дасье Віктра Шведа 6 цікавых кніжак; было б іх больш, каб былі грошы на іх выданне. Для дзяцей напісаў каля 2 тысяч вершаў. Падчас згаданай сустрэчы паэт прадаваў свае кніжкі „Вясёлка" і „Родны схоў" — з аўтографам. Вершы Віктара Шведа зразумелыя для ўсіх, ніколі не паўтараюцца. Пранікнуты яны свежасцю, прыгажосцю і любоўю да роднага краю. Мяне вельмі здзіўляе, што мастацтва творчасці Віктара Шведа мала заўважаецца літаратурнай крытыкай. Сардэчна дзякую Віктару Шведу за тое, што знаходзіць час наведваць простых людзей, што не забыў пра сваіх сяброў.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




*БАРЫС РУСКО*

**НЕ ДЛЯ СЯБЕ**

Ведаю, Нехта быў і адышоў,
Я — тут прысутны.
У сцюжы лаўлю бадзёрасць,
у кастры — цеплыню,
у Табе — радасць,
у прасторы — парыў,
у паэзіі — зачараванне.
Майго адыходу ніхто не дакажа.
Я — таксама.
Проста я заўсёды ўва мне.
Мо для Некага буду тым,
хто быў і адышоў,
але не для сябе.

**КУКОЛЕВАЯ ПРАЎДА**

Крочу на мыліцах з бутонам надзеі.
Чырвань пранікае аж да каранёў сэрца.
Гэта гульня? Ці вяртанне
шукальніка залатога руна?
Коўзанку шліфуюць страчаныя дні.
Апіраюся на млынавое кола.
Помню, як малола на муку словы.
Меў быць вясёлкавы пірог,
а выйшаў праснак з куколевай праўды.

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

* * *

Калыхалася ў люльцы дзіцятка малое,
калі сонца смяялася ў поўдзень глыбокі,
цешылася шчыра, дык толькі за тое,
што я у матулі сынок адзінокі.
Схілілася бяроза у нізкім паклоне.

— Дзякую вельмі, — сказаў жалязняк, —
Мой гаспадар гуляе ў загоне,
а я ўжо стары драбінасты бядак...
Не помню я тэмы гэтай размовы,
хаця я сцежкі у полі таптаў.
Бярозу зрубалі сякерай на дровы,
жалезны мой сябра рэнту дастаў.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*СТАНІСЛАЎ ВАЛОДЗЬКА*

* * *

Успомні маленькім сябе
На руках
У маці і ў бацькі —
Вазьмі сябе ў рукі!

Успомні падлеткам сябе
На руках
У дрэва і ў рэчкі —
Вазьмі сябе ў рукі!

Дзіцятка малое
На рукі вазьмі,
Яму усміхніся —
Вазьмі сябе ў рукі!

Свяшчэннай зямліцы
Ў далоні вазьмі
З магіл сваіх блізкіх —
Вазьмі сябе ў рукі!

Каб вынесці мукі
Ї выйсце знайсці,
Ї радасць — нарэшце —
Вазьмі сябе ў рукі.

Каб потым і ўнукі
Шчасліва пайшлі —
Сабой кіраванне
Вазьмі ў свае рукі!

* * *

Прыляціць зімой сарока —
Навіну з хваста страсе,
Што ўжо бусел недалёка,
Што дзіцятка вам нясе.

Ї зязюля напарочыць
Ї яму багата год,
Ї варона не сурочыць
Не абкаркае яго.

Шчабятаць ён будзе міла,
Ў снах лятаючы, расці,
Толькі б мужны голуб міру
Белы свет не упусціў...

Ї яму яго салоўка
Заспявае на страсе!
Прыляціць вясной сарока —
Навіну з хваста страсе...

* * *

У войска мяне выпускаючы, маці
Лоб асяняла — каб розум не траціў..,
Грудзі — каб духам не падаў,
быў чулым..,
Плечы — каб цяжкая ноша не гнула...
...Вось і вярнуўся я, дзякаваць Богу:
Маці жагнала мяне на дарогу.

*Даўгаўпілс, Латвія*

<u>Ліст у рэдакцыю</u>

# ХТО Ж ТАКІ — БЕЛАРУС?

*Гэты ліст даслаў у рэдакцыю малады чалавек з цэнтральнай Польшчы. Пару месяцаў таму ён пабываў на Беласточчыне і прыглядаўся да сужыцця палякаў і беларусаў на нашай зямлі.*

Нацыянальнасць — беларус, грамадзянства — польскае...

Такіх людзей у Польшчы каля 300 тысяч.

Хто ж такі беларус? Ці ў яго ёсць кароценькія рожкі, ці гэта ён апоўначы перамяняецца ў ваўкалака, а на снеданне п'е кроў польскіх дзяцей?

Не. Гэта такі ж самы чалавек, як ты. Гэта лекар, які ўчора даў табе бальнічны лісток L-4. Гэта мілы сусед, які дапамог табе рамантаваць аўтамашыну, а потым вы пілі гарэлку і доўга гаварылі аб палітыцы ды дайшлі да таго, што вы — аднадумцы. Беларусачка — гэта таксама прыгожая дзяўчына, з якой ты сёння пазнаёміўся.

Беларусы жывуць вакол цябе — гэта твае суседзі, сябры па рабоце, прахожыя на вуліцы. Здарылася, што яны з'явіліся і ў тваёй сям'і: твой брат ажаніўся з беларускай. Ты не ведаў аб гэтым? Што, яны бралі шлюб у касцёле? Дык што? Бачыш, як ты мала ведаеш аб беларусах! Яны ж не толькі праваслаўныя!

Звычайны паляк ведае, што гэта простыя мужыкі, якія гавораць на нейкай дзіўнай, трохі польскай, а трохі рускай гаворцы. Ён не ведае, што гэта народ з вельмі багатай і старой культурай ды цікавай гісторыяй.

Таксама і беларусы не заўсёды прыхільна ставяцца да палякаў.

Варожасць паміж братнімі народамі ды яшчэ ў адной краіне — гэта найгоршае, што можна сабе ўявіць! Варта тут успомніць словы польскага генерала Андэрса: „Пакінуць усё, што дзеліць, а ўзяць усё, што яднае".

У час другой сусветнай вайны пад камандаваннем гэтага генерала плячо ў плячо беларусы і палякі змагаліся супроць супольнага ворага за свабоду супольнай дзяржавы.

**АПО**
*(прозвішча да ведама рэдакцыі)*




**АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ**

22 студзеня г.г., у Цэнтральным гарадскім асяродку культуры ў Кракаве, на вул. Мікалайскай, д. 2, адбудзецца пяты кніжны аўкцыён. З ліку 444 выданняў, якія будуць таргавацца, мы звяртаем увагу сваіх кнігалюбаў на наступныя:

Poz. 195 — A. Z., Wojna na Litwie w roku 1831, z mapą, Kraków 1913. Cena wywoławcza 160.000 zł.

Poz. 278 — Kłos J., Wilno, Przewodnik krajoznawczy, Wilno 1923, C. w. 120.000 zł.

Poz. 312 — Lorentz S., Wycieczki po województwie wileńskiem, Wilno 1932. C. w. 100.000 zł.

Poz. 332 — Moszyński K., Polesie Wschodnie, Materiały etnograficzne z wschodniej części b. powiatu mozyrskiego oraz z powiatu rzeczyckiego, Warszawa 1928. C. w. 450.000 zł.

Poz. 358 — Pojezierze Augustowsko-Suwalskie, Przewodnik krajoznawczy i turystyczno-letniskowy, 1937. C. w. 150.000 zł.

Poz. 385 — Semenow P. P., Živopisnaja Rossija, Otčestwo naše (...), T. 4: Carstwo Pol'skoje: Varšavskaja, Kalisskaja, Keleckaja (...), Suvalkskaja i Sedleckaja gubcrni, Cz. 2, S. Peterburg—Moskva 1896. C. w. 500.000 zł.

Пісьмовыя заказы можна кіраваць на адрас: Antykwariat „Rara Avis", ul. Szpitalna 7/4, I piętro, 31-024 Kraków. У іх неабходна падаць: каталожны нумар, аўтара, першыя словы загалоўка кнігі і найвялікшую суму грошай, якую заказчык згодны заплаціць за яе.

Той жа самы антыкварыят мае ў свабодным продажы (спасылацца на „Katalog nr 23", poz. 57) кніжку: Chotkowski Wł., Dzieje zniweczenia św. Unii na Białorusi i Litwie w świetle Pamiętników Siemaszki, Kraków 1899. Cena 200.000 zł.

**ПЁТР БАЙКО**

# АПЛАТКА Ў КСЯНДЗОЎ

16 снежня 1993 года Беластоцкая мітрапалітарная курыя наладзіла аплаткавую сустрэчу з мясцовым журналісцкім асяроддзем. Гаспадарамі сустрэчы былі беластоцкі мітрапаліт архіепіскап Станіслаў Шымэцкі і генеральны вікарый Беластоцкай архідыяцэзіі епіскап Эдвард Азароўскі. Сустрэча адбылася ў зале парафіяльнага кіно „Тон".

На праграму сустрэчы склалася інфармацыя пра энцыкліку „Veritatis Splendor" (Бляск праўды), даклад дэлегата Курыі па пытаннях інфармацыі Войцеха Лазэўскага „Беластоцкі касцёл у люстэрку мясцовай прэсы" ды адказы абодвух епіскапаў на пытанні журналістаў.

З інфармацыяй пра папскую энцыкліку выступілі выкладчыкі Архідыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі ў Беластоку. Пры гэтай нагодзе былі выказаны погляды духоўнікаў на сам Касцёл. Касцёл з'яўляецца таксама інстытутам, але якасць гэтая падпарадкаваная ў ім вышэйшай вартасці, якой з'яўляеца чалавечая і збаненная супольнасць. Разважаючы пра праўду ў кантэксце папскай энцыклікі, адзін з дакладчыкаў заўважыў ды настойваў на тое, каб заўвага гэтая знайшлася ў прэсе, што чалавечае сумленне не з'яўляецца крэатыўным — яно ўсяго асуджае на аснове аб'ектыўных маральных норм, а нормай такой можа быць адно Божы закон.

Дослед дэлегата Курыі па пытаннях інфармацыі наконт бачання беластоцкага Касцёла мясцовай прэсай датычыў перыяду двух месяцаў. Пад зрокам даследчыка знайшліся ўсе беластоцкія штодзённыя выданні ды... „Газета тыгаднёва" — з увагі на тое, як заўважыў сам дакладчык, што яе акцыянерам з'яўляецца міністр юстыцыі В. Цімашэвіч. Агульная заўвага дэлегата па пытаннях інфармацыі была такая, што няма ў прэсе інфармацыі пра штодзённае жыццё каталіцкай грамады — ёсць затое гэтак званы пошук тэмы. Прэса пачынае пісаць пра Касцёл, калі ўзнікаюць спрэчныя ці канфліктныя пытанні. Тым не менш, трэба адзначыць, што ў прэсе з'явілася шмат матэрыялаў, напісаных у евангельскім духу. Толькі адна беластоцкая газета, заўважыў дэлегат Курыі, „Кур'ер паранны", крануў тэму ліста беларуска-праваслаўнага асяроддзя да архіепіскапа Шымэцкага. Не час, аднак, і не месца, сцвердзіў В. Лазэўскі, каб рабіць цяпер аналіз паасобных галасоў у дыскусіі на гэту тэму.

Адносна „Газеты тыгаднёвай" трэба паставіць сабе пытанне, сказаў дэлегат Курыі па пытаннях інфармацыі, ці выданне гэтае ў змозе прадставіць канкрэтную інфармацыю пра беластоцкі Касцёл. Трэба адказаць, што так, працягваў дакладчык, бо пераглядаючы нумары выдання за гэты двухмесячны перыяд, можна знайсці ў ім матэрыялы пра Супрасль, пра з'езд Брацтва праваслаўнай моладзі...

У частцы, прысвечанай пытанням журналістаў, была закранута справа канкардата паміж Ватыканам і Польшчай — ці з'яўляецца канкардат крыніцай магчымых пагроз для Польшчы. Канкардат, адказаў архіепіскап С. Шымэцкі, з'яўляецца міждзяржаўным дакументам, які быў падпісаны — паміж Польшчай і Ватыканам. Цяперашні ўрад мяркуе — ратыфікаваць яго, ці не. Працаўнікам канкардата ідзе пра тое, каб не прызнаць Касцёл у поўным яго вымярэнні, каб надалей застаўся ён прыватнай арганізацыяй. Аднак адступіцца цяпер ад таго, што было ўжо падпісана, сказаў С. Шымэцкі, азначае страту верагоднасці ў міждзяржаўных дачыненнях, дык на самой справе ўрад разважае цяпер — акампраматавацца, ці не.

**(алм)**

# СЯРОД НАС. ФЕДЗЯ.

З снежня пабываў я ў гайнаўскай царкве. Прыгожая царква, і хор у ёй спявае цудоўна. Не буду я, аднак, пісаць аб гэтым, а хачу сказаць вам пра пропаведзь айца Антонія. Аснавана яна была на гісторыі з Евангелля ад Марка аб прагным багацеі. Герой прытчы накапіў вялікае багацце і думаў толькі аб тым, каб яго захаваць. Не было ў яго думкі пра смерць. Многа ёсць сярод нас такіх людзей, якія і думаюць толькі пра тое, як найлепш сабе пажыць. Думку пра духоўнае адкладваем на потым або і не хочам увогуле пра гэта ведаць. Так, гэта якраз пра нас, а не пра іншых! Вось успомніўся мне мой сваяк. Год няма ўжо яго ў жывых. Не быў ён забагаты, нават саліднай хаты не меў. Але душою быў багаты. Працаваць любіў, аптымістычна глядзеў у будучыню. А працу ягоную, у жалезе, было чуваць — людзі казалі: „Федзя працуе!". Адны яго хвалілі, другія — ганьбілі, іншыя — пасміхаліся. А працаваў жа ён! Людзі дзівіліся — устанеш рана — Федзя працуе, вёска спіць — ён сваё робіць. Ї навошта яму гэта? Жыў адзінока, нежанаты быў, бацькі паўміралі. Не было яму ні свята, ні нядзелі. У царкву не заходзіў. Можа, у Бога не верыў? На гэтую тэму мы з ім не размаўлялі. Федзя паўтараў адно: „Замала чалавеку назначана жыць. Вось каб з трыста гадоў Бог даў! Тады паспеў бы і сёе-тое прыдбаць ды зрабіць. А так што — не паспееш зрабіць анічога!" А мары ягоныя, аж смешна падумаць! Хто скажа, што павінен быў Федзя лячыцца. Не, быў ён разумным чалавекам, ведаў многае. Ї ў матэматыцы, і геаграфіі, і ў гісторыі разбіраўся. Аднаго толькі не любіў і добра не ўмеў — пісаць на польскай мове. Надумаў Федзя збудаваць такое, чаго ніхто не бачыў. Каб заўсёды ў вокны гэтай будыніны сонца свяціла. Хата мела паварочвацца да сонца, як сланечнік. Рашыў пабудаваць аграмадны будынак, акапаць яго ровам з вадой, каб гадзюкам не было доступу. Любіў Федзя чысціню, але ніколі ў яго яе не было. Надумаў выкапаць сажалку, напусціць рыбы. Ї пасадзіць яшчэ вінаграднік, прывезены з Балгарыі. Ї яшчэ купіць прыгожы самаход. Ї марыў яшчэ Федзя ажаніцца з маладой дзяўчынай. Тады зажыў бы... Марыў, марыў... Ягоныя мары былі зусім іншыя, чым біблейскага багацея, але і ён быў засяроджаны на сваіх ідэях. Людзі ў вёсцы ўсяляк рэагавалі на Федзіны выдумкі. Адны яго шкадавалі, іншыя смяяліся. А калі пачаў Федзя будаваць супрацьядзернае сховішча казалі, што зусім адурэў. Не паесць чалавек, не выспіцца, а ўсё думае, думае... Ї сваякі яго дзіваком лічылі ды не вельмі любілі, але ніхто не мог сказаць, што Федзя ёсць дармаед ды лянівец. Адной думкі ў яго не было: што так хутка прыйдзецца яму ўсё гэта пакінуць. Захварэў. Паляжаў крыху. Пакінуў усё, што было ягоным, а было гэтага не так і многа, ды знайшліся раптам сваякі, знаёмыя, разабралі дабро. Што з тваіх планаў, Федзя!.. Мары твае не збыліся. Працаваў ты, як вол, не пасмакаваў спакойнага жыцця. Можа, хапіла б табе таго, што Тварэц даваў?.. Не векі ж нам жыць на нашай зямлі, і нічога звышнатуральнага мы тут не ўчынім! Жыцця нам толькі Бог даў, колькі даў. Запытайся старых — хто скажа, што нажыўся ўволю, нават калі пакутаваў! Праляцела жыццё, як сон. Пажадаць чалавеку можна толькі добрых, здаровых, ласкавых гадоў...

**ГРЫША МАРОЗ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ*

# УЦЁКІ

## 3

### Першы дзень нашых уцёкаў

Нарэшце Валянцін і Пэтэр праснуліся. Чуем толькі фырканне коней унізе. „Я сыду і пагляджу, — кажа Валянцін. — Відаць, пабаяліся ландвахі па нас прыйсці". Ён пацікy сышоў па драбінцы ўніз. Цераз мінут пяць ён увайшоў наверх: „Трэба ўцякаць. У пакоі рускага нікога няма, але нехта там быў і прагледзеў нашы чамаданы. І ўсё ў іх улажылі зноў". Мы сарваліся і пацікy пачалі сыходзіць. Унізе мы паглядзелі праз акно на шашу. Там спакойна. З другога боку хлява стаяў вялікі дом баўэра. Узяўшы чамаданы, мы пастанавілі выйсці ад старaны шашы, бо з другога боку баўэр праз акно мог бы нас заўважыць. Я выйшаў апошні з хлява і адразу пабачыў на шашы жандара з вялікім сабакам — нямецкай аўчаркай. Валянцін і Пэтэр беглі наперад не аглядаючыся. Я крыкнуў ім: „Не ўцякайце! Жандар стаіць з сабакам". Мы толькі выйшлі на поле і ландвахі нас акружылі.

— Вы не адзывайцеся, — сказаў я, — я буду з імі гаварыць.

Падышоў жандар з сабакам:

— Хто вы? — запытаў ён востра.

— Мы ідзем з-пад фронту — пачаў я. — Мы капалі акопы ля фронту, трапілі ў артылерыйскую кананаду і нават думалі, каб мы самі прабіраліся да сваіх баўэраў.

Яны пераглянуліся паміж сабою.

— Адкуль вы? Куды вы хочаце ісці? — запытаў жандар.

— Мы з-пад Гайльсберга і туды ідзём, — адказаў я.

Жандар загадаў нам паказаць нашы аўсвайсы і пытаў пра прозвішчы нашых баўэраў.

— Якой дарогай вы хацелі дайсці да Гайльсберга? — запытаў ён.

— Мы хацелі дайсці да Бартэнштайна, а адтуль у Гайльсберг.

— Чаму такім кругам? — засмяяліся яны.

— Мы іншай дарогі не ведаем, — адказаў я.

Яны адышлі ўбок і пачалі раіцца. Я толькі пачуў, як адзін з іх гаварыў, што, відаць, мы не небяспечныя людзі, што цяпер многа ўцякае з-пад фрронту і што трэба нас адпусціць. Жандар аддаў нам нашы аўсвайсы і растлумачыў дарогу ў Гайльсберг. Я падзякаваў яму і ландвахам, а Валянцін пачаў гаварыць, што мы галодныя, ці яны не маглі б даць нам хлеба на дарогу. Здалёк пры дамах сталі жанчыны. Ландвах пазваў адну і нешта ёй сказаў. Цераз мінут дзесяць падышла да нас немка, даволі прыгожая, і прынесла нам шэсць бутэрбродаў з жоўтым сырам і мясам, чаго мы не чакалі. Цяпер нам не трэба ўжо ўцякаць ноччу, а ўдзень ісці ў Гайльсберг без страху, што нас сашлюць у лагер.

Мы пайшлі цераз палі і дайшлі да шашы, але замест таго, каб павярнуць улева, скіраваліся направа. Па дарозе спаткалі ля студні жанчыну-мазурку, якая вельмі добра гаварыла па-польску, і яе парабка, паляка. Мы ім расказалі адкуль мы і куды ідзем і жанчына хутка прынесла нам цэлы бохан хлеба і вялікі кавалак кумпяка. Калі даведаліся, што з намі ёсць літовец, то нам паказалі дом, дзе жыла літоўская сям'я. „Idźcie tam — сказала — oni pa pewno poczęstuja was obiadem". Мы так і зрабілі. Калі Пэтэр загаварыў да іх па-літоўску, яны прынялі нас, як родных. Спачатку пачаставалі чаем, а пасля далі абед. Прыйшлі да іх знаёмыя літоўцы, прынеслі бутэльку і нас пачаставалі. Яны спявалі і па-літоўску, і па-руску, і па-беларуску. Мы з імі правялі дзве гадзіны і сытыя выйшлі да Бічаштайна. Пасля ўсяго ў мяне вельмі балелі ногі. Я ішоў вельмі памалу. Раптам на шашы пад'ехаў да мяне нейкі немец на возе, які цягнулі два коні. Ён паглядзеў, што я кульгаю, запытаў куды я іду.

— Да Бічаштайна, — адказаў я, — ногі ў мяне баляць.

— Сядай, — сказаў ён — я вас падвязу кіламетраў сем, перад Бічаштайнам я збочу, але там будзе ўжо недалёка. Я сеў на воз. Калі мы дагналі Валянціна і Пэтэра, якія ішлі метраў сто перада мною, ён іх запрасіў сесці са мной. Калі немец меў павярнуць улева, мы сышлі з воза і раптам з другога боку шашы выехаў на яе цэлы караван франтавых бежанцаў, падобны да цыганскага табара з крытымі вазамі. Ехалі там немцы, а паміж імі былі і рускія, і беларусы. Мы кінулі нашы чамаданы ў воз і пайшлі за караванам. З імі мы ўехалі ў горад. Пачало ўжо цямнець. Караван меў затрымацца ў горадзе на начлег і звярнуў на плошчу. Мы хутка забралі нашы чамаданы і выйшлі на шашу Бічаштайн-Гайльсберг, дзе пастанавілі шукаць начлег. Кіламетраў чатыры за Бічаштайнам увайшлі ў вялікі маёнтак нейкага баўэра. Сам баўэр быў у хляве. Пры ім працавалі два французскія ваеннапалонныя. Я падышоў да немца і запытаў:

— Дазволіце нам пераначаваць дзе-небудзь у сене? Мы ўцякаем ад фронту.

Ён паглядзеў на нас і сказаў:

— Без згоды ландвахаў я не магу вас прыняць.

— А дзе магу знайсці ландваха?

— Кіламетры два адсюль, — сказаў.

Калі мы выходзілі з хлява, да нас падышоў француз і сказаў:

— Прайдзіце метраў дзвесце па шашы, злева пабачыце маёнтак. Там жывуць жанчыны. Яны вас прымуць.

Я падзякаваў.

Мы падышлі да дзвярэй невялікага дома і пастукалі. Выйшла пажылая жанчына з ліхтаром і запытала: „Was wollen sie?" (Чаго вы хочаце?). Я сказаў ёй, што мы ўцякаем перад фронтам і просім, каб яна нас пераначавала. Жанчына запрасіла нас у пакой. Прыйшла да яе нейкая сваячка-мазурка, якая добра гаварыла па-польску. Яны хутка накрылі стол і далі нам абед. Мазурка плакала, што яе муж загінуў недзе ў Савецкім Саюзе. „Можа ён там, як і вы, галодны блукае" — гаварыла яна праз слёзы. Многа яны нас распытвалі, дзе мы былі і што рабілі. Валянцін умеў добра расказваць і фатаграфаваць. Мазурка ўсё перакладала немцы. Калі мы наеліся і напіліся, нас завялі ў клуню на сена, дзе мы хутка заснулі. Да Гайльсберга засталося нам дваццаць пяць кіламетраў. Але мы ўжо не спяшаліся...

*(працяг будзе)*




## ВЫКЛІКАЛА МЯНЕ АЎРОРА

Я адчуваю сябе „выкліканым да дошкі" двума лістамі Аўроры, надрукаванымі ў „Ніве" (41 і 50 н-ры ад 1993 г.).

Найперш хачу вытлумачыць сваю адсутнасць на з'ездзе карэспандэнтаў. У мяне гэтак склалася, што я быў вымушаны ў той дзень працаваць. Не мог скарыстацца запрашэннем і Барыс Руско, які ў сваю чаргу апекаваўся бацькамі — 96-гадовым Амяльянам і 87-гадовай Надзеяй і па гэтай прычыне ён ніяк не мог сабе дазволіць выехаць з дому на цэлы дзень.

Мне вельмі хацелася быць на з'ездзе, сустрэцца са сваімі сябрамі-карэспандэнтамі, даведацца, што ў іх чувань, пазнаёміцца таксама з новымі членамі рэдакцыйнага калектыву. Я, напрыклад, не ведаю яшчэ Аляксандра Вярбіцкага і Ганны Кандрацюк. Зрэшты, ці толькі адзін я? А наогул, то шкада, што на з'ездах не выконваюцца сямейныя здымкі? Чаму гэтак! Такія здымкі з цягам гадоў набіраюць значэння. А на бягуча — заспакойваюць цікаўнасць „звычайных" чытачоў.

Пра што гаварылася на з'ездзе, я больш-менш даведаўся з пасляз'ездаўскай справаздачы на старонках тыднёвіка. Быў бы я на з'ездзе, дык закрануў бы справу распаўсюджвання „Нівы". Мне здаецца, што пра гэта ніхто ў нас не клапоціцца. А справа надта ж важная!

Што датычыць пытанняў пастаўленых мне Аўрорай:

Чуму з той трохсотгадовай даўнасці магілы мы яшчэ не „выцягнулі", так, што дарагая мая сяброўка, спі спакойна! А так усур'ёз! Пачатковае зацікаўленне мясцовых улад нашым адкрыццём не перайшло ў дзеянне. Мы лічылі, што магілу агародзяць, паставяць крыж. А тут, — цішыня! Маўчым і мы, пасля той прапановы, каб раскапаць магілу. Навошта нам браць маральную адказнасць за магчымае няшчасце? Добра, што наогул удалося нам устанавіць, дзе знаходзіцца магіла. Мы паказваем гэтае месца ўсім, хто праяўляе да гэтага цікавасць. Такім спосабам прадаўжаем памяць аб першых белавежцах. Усё ж, добра было б неяк тое месца ўшанаваць.

Дарагая Аўрора, свабоднага часу ў мяне няшмат. Так, што няма чаго мне зайздросціць. А за тое, што ўдалося мне крыху чаго цікавага „выграбці" з гісторыі Белавежы, я — удзячны перш за ўсё маім сябрам — Барысу Руско, Сяргею Тарасевічу і былому галоўнаму рэдактару „Нівы" Георгію Валкавыцкаму. Каб не іх сёлетняя дапамога ў пошуках, я і паловы гэтага не ўстанавіў бы. Шчыра ім за гэта дзякую! Яны для мяне таксама як дрожджы — не даюць застынуць у нерухомасці.

Аўрора, я вельмі цешуся, што і ты хацела б крыху пакорпацца ў нашай даўніне. Каб устанавіць гісторыю нашых родных мясцін, трэба ў першую чаргу гаварыць са старымі людзьмі. Яны, як тыя пажоўклыя кнігі, з якіх шмат чаго цікавага даведваешся. Дык трэба спяшацца з размовамі! Людзі гэтак хутка адыходзяць! Я не магу сабе дараваць, што не пагаварыў з многімі старажыламі Белавежы, якіх ужо няма сярод нас. Мне здавалася, што я маю яшчэ на гэта час...

Наогул я заклікаў бы ўсіх карэспандэнтаў „Нівы", каб яны стараліся запісваць усе весткі аб мінулым ваколіц, у якіх жывуць. Распытвайце, дарагія сябры, адкуль узяліся назвы вядомых вам урочышчаў, што і калі здарылася, як людзі жылі калісьці, пра што думалі, чым займаліся. Варта таксама, думаю, запісваць мясцовыя легенды — у іх нярэдка адлюстроўваюцца сапраўдныя падзеі. Я лічу, што „Ніва" ахвотна будзе ўсё гэтае друкаваць. Мо нават выдзяліць на гэта спецыяльны куточак? Я нават прыдумаў яму загаловак: „Скарбніца нашай зямлі". Памятайце, сябры: запісанае — застаецца!

**ПЁТР БАЙКО**

# „ВЕЧНА ЖЫВЫ МІЦКЕВІЧ"

Пад такім заклікам была праведзена 18-га і 19-га снежня 1993 года Міжнародная навукова-тэарэтычная канферэнцыя, прысвечаная 195 гадавіне з дня нараджэння Адама Міцкевіча і 55-цігоддзю з дня адкрыцця Музея паэта ў Навагрудку. Гэта навуковая імпрэза спансаравалася адзінаццацю фірмамі і дзяржаўнымі арганізацыямі. Прыняло ў ёй удзел каля трыццаці дакладчыкаў з Беларусі, Расіі, Літвы. З Польшы прысутнічалі такія навуковыя супрацоўнікі як праф. З. Нядзеля з Ягелонскага ўніверсітэта, праф. Р. Ляшчынскі з Лодзінскага ўніверсітэта, доктар М. Яцкевіч з Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне і я з Варшаўскага ўніверсітэта. Апрача навуковых супрацоўнікаў з Польшчы, прынялі ў канферэнцыі ўдзел супрацоўнікі з Літаратурнага музея імя Міцкевіча ў Варшаве Э. Банко-Сітэк і дырэктар музея А. Міцкевіча ў Смелаве А. Кашталеўскі.

Пасяджэнні канферэнцыі вёў прафесар Гродзенскага ўніверсітэта Сяргей Габрусевіч.

Дакладчыкі прадстаўлялі розныя аспекты жыцця і творчасці Адама Міцкевіча. Многія з іх заняліся сувязямі польскага паэта з літаратарамі і літаратурамі іншых народаў.

Зразумела, што аграмадная большасць дакладчыкаў прадстаўляла беларускія навуковыя ўстановы, галоўным чынам Беларускі дзяржаўны універсітэт у Менску і Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.

Прыемна здзівіў мяне палкоўнік дацэнт Акадэміі міліцыі з Менска Г. Рамановіч, які выступіў з дакладам „Этнапсіхічныя і этнапедагагічныя элементы ў паэме А. Міцкевіча „Пан Тадэвуш". Здзіўленне маё было выклікана не дакладам, а толькі тым, што быў ён прадстаўлены палкоўнікам на чыстай беларускай мове. Прызнаюся, што дагэтуль я ўжо некалькі разоў сустрэў палкоўнікаў і маёраў арміі, якія добра размаўлялі па-беларуску, аднак палкоўніка міліцыі, які дасканала валодае беларускай мовай, сустрэў у сваім жыцці першы раз.

Актыўна вялі сябе на канферэнцыі члены польскай дэлегацыі. Э. Банко-Сітэк прадставіла даклад аб музеях Адама Міцкевіча ў свеце. А. Кашталеўскі схарактарызаваў музей Міцкевіча ў Смелаве, які знаходзіцца на Познаншчыне. Прафесар З. Нядзеля прадставіў даклад на тэму „Чэшскія пераклады Адама Міцкевіча". Праф. Р. Ляшчынскі выступіў з вельмі цікавым дакладам „Аб уплыве Адама Міцкевіча на сербалужыцкую літаратуру". Урэшце М. Яцкевіч зачытаў даклад „Адам Міцкевіч у літоўскай літаратуры". Я, што называецца, пайшоў на першы агонь. Пасля афіцыйных выступленняў на пленарным пасяджэнні прачытаў даклад „Аб адной міцкевічоўскай эміграцыйнай публікацыі". Даў я аналіз артыкула „Адам Міцкевіч — сын беларускай зямлі", апублікаваны ў Нью-Йорку ў 1955 годзе на старонках „Бацькаўшчыны" выдатным беларускім эміграцыйным крытыкам Станіславам Станкевічам. Артыкул гэты быў дагэтуль увогуле невядомы ў Беларусі, якая, як вядома, на працягу многіх гадоў шчыльна адгароджвала сваіх грамадзян ад беларускай эміграцыі. Названы артыкул адзначаецца выключнай вострасцю, палемічнасцю, а нават экстрэмальнасцю. Усе гэтыя ўласцівасці праявіліся ў спробе Станкевіча даказаць беларускі радавод Міцкевіча і яго моцную сувязь з беларускай мовай і псіхалогіяй. Пасля публікацыі артыкула ў 1955 годзе многія палякі гаварылі, што Станкевіч прагне „адабраць Міцкевіча ў палякаў і прыпісаць яго беларускаму народу". Трэба сказаць, што вострая палемічнасць артыкула Станкевіча спадабалася сабраным на канферэнцыі вучоным.

Па-за навуковымі пасяджэннямі ўдзельнікі канферэнцыі наведалі нова збудаваны і адкрыты Музей Міцкевіча. Кіраўнікі Музея моцна падкрэслівалі, што новы будынак узнік у выніку цеснага супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі.

Трэба сказаць, што канферэнцыя была дасканалай нагодай для таго, каб прыбліжыцца і як бы дакрануцца да вялікай асобы польскага паэта, які безупынна прысутнічае не толькі ў польскай культуры, але таксама ў пісьменствах многіх народаў, у тым ліку, зразумела, і ў беларускай літаратуры.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЗДАНІ

### Помста епіскапа

Некаторыя тэолагі аўтарытэтна сцвярджаюць, што здані рэлігійных дзеячоў сустракаюцца досыць рэдка — хутчэй за ўсё з тае прычыны, што ацэнка іх дзейнасці Панам Богам з прафесійнай спецыфікі працы святароў можа быць толькі адназначнай, і пасля смерці душы іх адразу трапляюць ці ў рай, ці ў пекла. Але, як істотна ўдакладняюць найбольш дасведчаныя царкоўныя іерархі, характарыстыкі на тых клірыкаў, якія пры жыцці свядома мянялі веравызнанне, часам губляюцца ў анёлаў-справаводаў: не ведаючы, у які менавіта, праваслаўны альбо каталіцкі рай ці пекла накіраваць душу такога святара, яны адкладаюць папкі з характарыстыкамі ў далёкія шуфляды і, здараецца, забываюцца на гэта. Душам такіх рэлігійных дзеячоў выпадае доўга чакаць вырашэння свайго лёсу, і многія з іх, не ведаючы, што рабіць, зноў адпраўляюцца на зямлю...

Вось якая гісторыя здарылася ў Віцебску:

У 1982 годзе горад ускалыхнула серыя загадкавых забойстваў, якія ж, да ўсяго іншага, уражвалі сваёй бессэнсоўнай жорсткасцю: ва ўсіх пацярпелых былі пракушаныя шыйныя артэрыі, і паталагаанатамы, даследуючы трупы ахвяраў загадкавага злачынцы, кожным разам канстатавалі, што ў арганізме не засталося аніводнае часткі гемаглабіну. Міліцыянты распачалі пошукі, але яны былі марнымі. Дарэчы, некаторыя следчыя заўважылі, што забойца высмоктвае кроў пераважна з праваслаўных, нават тых, хто займаў кіруючыя партыйныя пасады, але не надалі гэтай акалічнасці ўвагі. Гісторыя мела вялікі розгалас, і ў шматлікіх журналісцкіх даследаваннях атрымала назоў „Віцебскай справы". Горад стаў небяспечным для насельніцтва, і гарвыканкам ужо ўсур'ёз падумваў, каб увесці ў Віцебску каменданцкую гадзіну...

Пасля таго, як невядомы злачынца высмактаў кроў з чарговае ахвяры — а ёй стаў старшыня гарадской Камісіі па справах рэлігіі, веравызнанняў і атэізму — на пасаду апошняга загадам абкама партыі быў накіраваны нехта Б., звычайны вясковы фацэт, які працаваў дагэтуль дырэктарам калгаснага свінагадоўчага комплекса і, між іншым, нават сярод дасведчаных у падобных справах свінагадоўцаў вызначаўся ўменнем віртуозна лаяцца.

Б. пасяліўся ў шыкоўнай кватэры шматпавярховага дома, збудаванага ў гістарычнай частцы горада, на месцы, дзе калісьці знаходзіўся касцёл, перасвенчаны з праваслаўнай царквы. У першую ж ноч у спачывальні, перад самым ложкам Б., з'явілася нейкая чорная постаць, апранутая, як падалося гаспадару, у святарскія рызы. Заўважыўшы ў роце прышэльца доўгія, мо з дэцыметр, іклы з запёкшайся крывёю, пераляканы Б. ускочыў з ложка — апранутая ў рызы пачвара кінулася наўздагон. Б. адразу ж скеміў, што мае справу з нейкай зданню: ён, хаця і ўзначальваў па загаду партыі атэістычную працу ў горадзе, усё адно ў глыбіні душы не губляў веры ў надзвычайнае. А таму, разумеючы, што гульня са зданню ў хованкі ніколі не скончыцца на яго карысць, Б., бухнуўся перад прывідам на калені і даў чэснае слова камуніста, што ў абмен на жыццё зробіць усё, што толькі пажадае страшны святар. Падумаўшы, пачвара пагадзілася з прапановай Б., і загадала падабраць якую-небудзь ахвяру замест сябе. Старшыня з радасцю і параіў высмактаць кроў з першага сакратара абкама партыі. У наступную ноч ён паказаў на ягонага намесніка, потым — на начальніка мясцовага КДБ... Неўзабаве ўсе асобы, вартыя, на думку Б., пакутніцкай смерці, скончыліся і, разумеючы, што ў самы бліжэйшы час ён сам стане ахвярай жудаснай істоты, старшыня гарадской Камісіі па справах рэлігіі, веравызнанняў і атэізму пайшоў да бабкі-варожкі — параіцца. Тая сказала, што здань, хутчэй за ўсё, належыць якому-небудзь святару, які свядома выракся веры продкаў. Між іншым, падчас тае нарады Б. згадаў, што якраз год таму воды Дзвіны падмылі віцебскі бераг, і коўш экскаватара, які ўмацоўваў набярэжную, выцягнуў нечы шкілет, апрануты ў рызманы уніяцкай рызы — гісторыкі меркавалі, што гэта была магіла Язафата Кунцэвіча, забітага ў 1624 годзе віцебскімі гараджанамі за надта ўжо надакучлівую, на думку апошніх, місіянерскую дзейнасць. Супаставіўшы факты, Б. прыйшоў да высновы, што ён мае справу са зданню менавіта гэтай гістарычнай асобы. Варожка запэўніла, што традыцыйныя сродкі — срэбная куля, пазначаная крыжом, часнок, грамнічная свечка і свянцоная вада не бяруць падобных пачвараў, і параіла пагаварыць з істотай па-свойску.

Прыйшоўшы дахаты, Б. выпіў кілішак гарэлкі і стаў чакаць крыважэрнага уніята. Неўзабаве той з'явіўся. Тады былы свінагадоўца, глянуўшы пачвары проста ў вочы, голасна сказаў: „Пайшоў на х.. адсюль!.. На х.., я сказаў!.."

Пасля гэтага адрасавання здань бездапаможна замахала рукамі і растварылася ў паветры. Больш яна ніколі не з'яўлялася, і загадкавыя забойствы адразу скончыліся. Праўда, гадоў праз дзесяць пасля гэтага здарэння невялічкая групка маладзёнаў, палічыўшы, што уніяцтва можа стаць „народнай рэлігіяй беларусаў", паспрабавала рэанімаваць цень Язафата Кунцэвіча, але той, напэўна, даўно ўжо пайшоў на на сваё месца, і таму на заклікі маладзёнаў адгукнуцца не змог.

*(працяг будзе)*

Падрыхтаваў
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. Трапічная расліна, 3. завіруха, 5. галоўны горад Ліпарыйскіх выспаў (Італія), 7. на траве летняй раніцай, 9. паркавае дрэва, 10. аўтар „Зоркі Венеры" і „Пагоні", 11. верхняя канечнасць, 12. там прымаюцца і выдаюцца грошы, 14. вялікі амерыканскі горад, 16. выспа і дзяржава на Міжземным моры, 17. афрыканская дзяржава.

**Вертыкальна:** 1. паслушэнства, 2. афрыканская дзяржава са сталіцай Бамако, 3. кніга Георгія Валкавыцкага, 4. норма харчовага забеспячэння, 6. спектакль, 8. хатняя жывёла, 9. псеўданім, 11. гранічная рака між Танзаніяй і Мазамбікам, 13. птушка-зладзейка, 14. горад у Забайкаллі, 15. рад музыкальных гукаў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 48 н-ра:

**Гарызантальна:** Таледа, кабарэ, камера, рыба, Адэн, шкалярства, Заір, Гана, трыяда, Манаус, магіла.

**Вертыкальна:** татары, Дака, кара, рэфрэн, меліярацыя, башкір, адвага, задума, навела, трус, дама.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніўся мне нядаўна такі сон: у мяне паявілася маладая чорная барада, практычна такая тытрохдзённая густая шчотачка, вельмі акуратная, прыгожая, але аж да самай шыі і на шыі таксама. Гляджу ў люстэрка і думаю: ой, якая ж прыгожая барodka, але што ж я з ёю зраблю? Давядзецца цяпер пераапранацца за мужчыну (дарэчы, я апранутая ў вельмі элегантны мужчынскі касцюм). Думаю, што калі нават пагалюся, будзе відаць, бо ў брунетаў бываюць сінія шчокі пасля галення. Бяру брытву, прабую галіцца (без мыла), а валаскі сходзяць роўна, акуратна, скура пад імі вельмі гладкая, беленькая, прыгожая. У гэты момант я прачнулася.

**Аліцыя**

Аліцыя! Сон твой вельмі цікавы. Праўду кажучы, сны пра бараду сняцца пераважна мужчынам, а тут, бачыш, табе прыснілася такое. Калі каму прысніцца, што ў яго барада доўгая — чакае яго гонар і пашана. Калі сніцца барада малая — можна спадзявацца нечага накшталт судовага працэсу. Калі з барады выпадаюць валасы — чалавека чакае сорам і прыніжэнне.

Ясна, што, у тваім выпадку, тая барада нічога добрага не прадвяшчае. Па-першае, ты ж — жанчына, а гэтая барада быццам прылепленая да цябе, і ты выступаеш у ролі некага, кім не з'яўляешся. Па-другое, барада была малая, у сувязі з гэтым можна меркаваць, што чакае цябе нейкае абвінавачанне. Думаю, што абвінавачанне гэта акажацца няслушным, і табе ўдасца пазбыцца яго без шкоды (ты ж узяла брытву, агалілася, і валаскі сышлі з твайго твару роўна і акуратна, а скура пад імі аказалася гладкая і прыгожая). Так што ўсё павінна скончыцца добра.

**АСТРОН**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787. Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4261. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) | — 100.000 зл. |
| 4262. Калектыў „Арэшкі" з Арэшкава | — 200.000 зл. |
| 4263. Іаланта Вішнеўская (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4264. Ян Ляшчук (Гайнаўка) | — 60.000 зл. |
| 4265. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) | — 100.000 зл. |
| 4266. Ілья Агіевіч (Орля) | — 60.800 зл. |
| 4267. Міхал Голуб (Гайнаўка) | — 22.000 зл. |
| 4268. Ян Скепка (Гайнаўка) | — 200.000 зл. |

**Дзякуем.**

**Наш адрас:** Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**БУЛЬБЯНЫЯ ПІРАЖКІ З ГРЫБАМІ**

Прадукты:
*5 дэкаў сушаных баравікоў,*
*1 вялікая цыбуліна,*
*10—12 бульбін,*
*1/2 шклянкі пшанічнай мукі,*
*1—2 яйкі,*
*тлушч для смажання, соль і перац.*
*Соус:*
*1 лыжка мукі,*
*1 лыжка алею,*
*некалькі лыжак смятаны.*

Грыбы памыць, намачыць, зварыць, адцадзіць (адвар захаваць), астудзіўшы іх — пасячы. 2 лыжкі грыбоў пакінуць для соусу, рэшту перамяшаць з пасечанай, падсмажанай цыбулькай, дадаць солі і перцу.

Бульбу ababраць, зварыць у пасоленай вадзе, стаўчы, замясіць з мукой (можна дадаць 1 яйка і пасаліць). З цеста раскатаць валік дыяметрам 5 см. Адразаць не вельмі тоўстыя скрылёчкі, рабіць у руках аладкі, напаўняць іх фаршам, качаць піражкі. Пасля піражкі палажыць на змазаную тлушчам бляшку, змазаць іх зверху яйкам, уставіць у духоўку, спячы.

**ГАСПАДЫНЯ**





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką od 1.01.1994 r. wynosi 7000 zł., a kwartalnie - 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.


Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*УЛАДЗІМІР ПАЎЛОВІЧ*

**РЭКЛАМА**

Рэклама — моцны рухавік,
Рэклама — штурвал веку.
Да гэтай з'явы я прывык,
Як лес да дрывасека.

„Пазбавіць ад усіх клапот
Камп'ютэр фірмы „Соні"!
Даём гарантыю на год,
Званіць па тэлефоне..."

Тут смех ці здзек — кумекай сам
(Хоць лаяцца нягожа).
Навошта ж цуд японскі нам —
Ён махляваць не можа!

— Ваш капітал, бы проста снег,
Інфляцыя з'ядае...
Укладайце грошы ў „Мерседэс" —
Бо лепшых не бывае!

А вось яшчэ якая рэч:
„Марс" — многа вітамінаў.
Калі з'ясі, то голад прэч —
Не трэба нам свініны!

Цяпер усе робяць свой навар.
Мінулае забудзем.
Тавар, рэклама, зноў тавар...
— Таварам станем, людзі!

## СЕНТЭНЦЫІ

Адзіноцтва — гэта пустазелле, якое размнажаецца толькі сярод людзей.

* * *

Пункт з'яўляецца пачаткам і канцом усяго.

* * *

У пажадлівасці твар караеда.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА

Дзе цябе чэрці носяць?!

*Малюнак Я. Бусла*

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

У медыцынскай акадэміі выкладчык праводзіць апытанне, патрэбнае для яго новай дысертацыі

— Прашу падняць руку тых, хто любіцца штодзённа... Дзякую. Хто раз у тыдзень... Дзякую. Хто раз у месяц... Дзякую. Хто раз у год... Дзякую.

— А я, пан прафесар, раз у год; я — тут!

— Вельмі дзякую.

— Я тут, пан прафесар; гэта я — раз у год!

— Знаю; а чаму вы так цешыцеся?

— Бо гэта ўжо заўтра!!!

* * *

Адзін юрлівы халасцяк меў балбатлівага папугая. Часта прыводзіў дамоў жанчын і, калі наступаў найбольш напружаны момант, папугай выказваў свае каментарыі. Бянтэжыла гэта жанчын і яны хуценька апраналіся і выходзілі. Аднойчы гаспадар, спадзеючыся прыходу вельмі прывабнай жанчыны, загадаў папугаю:

— Галаву да сцяны і сядзець ціха, бо як не — дык адрубаю.

Далей усё пайшло па-плану: папугай моўчкі сядзіць, адвернуты галавой да сцяны. У пэўны момант чуе голас:

— Закінь мне ногі на шыю!

Папугай не вытрымаў:

— Чорт з галавою, мушу паглядзець гэты нумар.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Прашу раздзявацца!

— Калі саромеюся...

— Я згашу святло.

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, калі я люблюся з мужам, то заўсёды плачу.

Гэтак нетыповую рэакцыю лекар пастанавіў праверыць: палажыў бабу, згасіў святло, зрабіў адзін нумар, другі, трэці і дзесяты:

— Ой, больш ужо не магу.

— Пан доктар зусім як мой муж! Больш не можа!!! Бууу...

* * *

Прыходзіць баба да лекара:

— Пан доктар, маю праблему з цыцкамі.

— Прашу зняць бюстгальтар!

І фактычна: баба здыме бюстгальтар — цыцкі падымуцца, надзене — ападуць. Паказала гэтае некалькі разоў.

Лекар глядзіць на яе і гаворыць:

— Не маю паняцца, у чым сутнасць гэтай з'явы, але, здаецца, яна інфекцыйная!!!

* * *

Размаўляюць два суседы:

— Як чуецца твая жонка?

— Выслаў яе на адпачынак.

— А я пакуль што яшчэ сам даю рады.

* * *

На танцах дзяўчына шэпча хлопцу:

— Калі я з табою танцую, адчуваю сябе як на пустыні.

— Сапраўды, каханая?

— Так, бо танцуеш быццам вярблюд.

* * *

Жонка гаворыць мужу:

— Іншыя мужчыны сваім жонкам гатовы неба прыхіліць, а ты што?

— Я таксама, калі б ведаў, што ты там застанешся.

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ЧОРТ-МАНЮКА

Ужо колькі раз чытала я ў „Ніве" апавяды аб зданях і пачварах Беларусі аўтарства Ф. Хлуса і М. Юра. Гэта праўда, што на свеце ёсць шмат чаго дзіўнага і незразумелага, што нават намі і кіруе. Вось раскажу шаноўным чытачам аб чорце-падманшчыку, вядомым жыхарам беларускіх вёсак да вайны і падчас гітлераўскай акупацыі. Кажуць, так бывала, што, калі мужчыны дамаўляліся назаўтра разам пасвіць валоў, то абавязкова чорт-манюка рашаў іх ашукаць.

Толькі ляжа гаспадар спаць, а тут стук-стук у дзверы. — Хто там? — пытаецца гаспадар. — Гэта ж я, — адказвае д'ябал голасам суседа, — уставай, хутчэй выганяй сваіх валоў, бо мае не ўстаяць!

Гаспадар выганяе жывёл з аборы на вуліцу. — Дзе ж ты са сваімі валамі? — пытаецца, а чуе ў адказ:

— Тут я, ідзі хутчэй! Но, мае валы, но, пайшлі!

— Я ж цябе не бачу! — злуецца гаспадар.

— Як гэта не бачыш?! Я іду перад тваімі валамі! Мае бягуць хутка, падганяй і сваіх!

І так усю дарогу. Вядома ж, калісьці вуліц не асвятлялі электрычнасцю, і гаспадар не мог бачыць, ці сапраўды хтосьці жане перад ім сваё быдла. Чорт-манюка заўсёды заводзіў гаспадара ў такую ламарню, што нялёгка было адтуль выбрацца. Чалавек толькі надосвітку пераконваўся, што ішоў без суседа. Заставалася маліцца, каб спакойна вярнуцца дадому.

Дзяўчат чорт таксама любіў зводзіць. Калісьці панны збіраліся ў аднае сяброўкі прасці. Хаткі былі малыя і не ўсім удавалася сабрацца разам, выбіралі дзве-тры. Сяброўкі дамаўляліся зайсці адна за адной. І вось што здарылася пэўнай дзяўчыне. Гэта было ў Семяноўцы. Дамовіліся адна дзяўчына з другой разам выбрацца на вячоркі.

Вось сядзела Марытка ды прала разам з іншымі дзяўчатамі. Раптам хтосьці застукаў у акно і пачулі голас сяброўкі, якая мела зайсці за Марыткай:

— Ідзем, Марытка, пара ўжо дадому.

Дяўчына развіталася і выйшла на вуліцу. Агледзелася, а там нікога няма.

— Надзя, дзе ж ты, я цябе не бачу?

— А я тут, хадзі сюды.

Марытка ішла за голасам, ішла, ішла... Да раніцы завяло яе аж на хутар у хваіну. Перавяло дзяўчыну праз двое пуцей, якія днём і ноччу пільнавалі немцы!

У сямідзесятыя гады адна жанчына ў нашай аколіцы вельмі перайма́лася, што яе сын сядзіць у турме. Ноччу не спала, плакала. Аднойчы разбудзіў яе стук у акно. Падышла, запыталася, хто грукае.

— Гэта я, — пачула голас сына. — Адчыні, мама.

Жанчына адчыніла дзверы, але нікога не ўбачыла.

— Дзе ж ты, сыне?

— Мама, я тут!

Кабета ішла за сынавым голасам аж да другое вёскі. Толькі тут апамяталася.

— Добра, што цёмна, а то людзі з мяне смяяліся б, што я так у адной начной кашулі вандрую! — падумала. Вярталася з малітвай, каб яе чорт не чапаў.

У сучаснасці чорт-манюка таксама зводзіць людзей, але робіць свае жарты зусім іначай. Колькі раз шафёра таксі прасіў нехта завезці ў нейкае месца, а аказваліся недзе на цвінтары ці ў лесе... Хай хто хоча — верыць, хто не хоча — не, але розныя дзівы бываюць на свеце...

**АЎРОРА**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Мяне ўсё цікавілі людскія справы, пра якія можна прачытаць у „Сардэчных тайнах". Аднак жа ніколі я не пісаў пра кагосьці. А цяпер, чытаючы гэту рубрыку, пераканаўся, што трэба пісаць пра ўсё, тым больш, што заахвоціла мяне да гэтага даўняя сяброўка, якую я спаткаў у Ольштыне. Яна мне расказала пра свае жыццёвыя перыпетыі.

З маці пра каханне яны ніколі не гаварылі. Дзяўчынка яе баялася, бо маці біла яе штодзённа. Толькі сястра яе лічылася, а яна была „каровай", „гультаём". Адчувала сябе непатрэбнай у гэтай хаце.

Калі дзяўчынцы было 12 гадоў, яна спала з бацькамі і сястрою ў адным пакоі. Бачыла ўсё, як на далоні, што рабілі яе бацькі. Тады першы раз перажыла аргазм, не ведаючы яшчэ, што гэта такое. Было ёй вельмі прыемна.

Ад тае пары пачало ёй бракаваць гэтай радасці. Навучылася ананізавацца. У хаце стала невыносная, кепска вучылася. Маці лупіла яе без меры, а раз нават абяцала павесіць. Маці пацяшала сябе, што яе дачка даспявае, а як ужо будзе мець менструацыю, дык усё стане на сваё месца. Бацька ўсё піў, зусім не цікавіўся дзецьмі. Дзяўчынка ў часе адной з мастурбацый парвала сабе ўсё ў сярэдзіне, пайшла кроў, а яна думала, што гэта ўжо менструацыя. А тое было яшчэ наперадзе.

Калі дзяўчыне было 17 гадоў, яе хлопец дабраўся да яе і атрымаў, што хацеў. Ніхто ёй не сказаў, што трэба шанаваць сябе і аддацца толькі тады, калі будзе хлопца моцна кахаць. Гэты хлопец стаў яе мужам. Неўзабаве пачаў ёй рабіць сцэны зайздрасці. Нельга было нікуды адной выйсці, злаваўся, калі выглянула праз вакно. Відаць, адчуваў яе холад у адносінах да свае асобы.

Хацела адысці ад мужа, але ён пачаў шантажаваць яе, што скажа бацькам, быццам не ішла яна замуж дзеўкаю. Баялася бацькоў і засталася. Муж сабе дык дазваляў сваволіць і любіць дзяўчат. Біў жонку, не даваў грошай на дзетак. Яму можна было ўсё, а ёй — нічога. Можа якраз таму праз 8 гадоў іх супольнага жыцця яна здрадзіла мужу. Каханак быў чалавекам спакойным, чуллівым, далікатным. Падабаўся ёй яго цёплы голас, мілыя адносіны да яе. Быў аднак жанаты і разлічваць на тое, што ён кіне сям'ю, яна не магла і не хацела. Памагаў ёй як мог, разумеў і шанаваў яе, іх кароткія сустрэчы давалі ёй многа шчасця. Папрыгажэла нават, і людзі не пазнавалі яе на вуліцы. Для яго кінула папяросы, не мусіла ананізавацца. Адчула сябе сапраўднай жанчынай. Хацела разысціся з мужам, але не дзеля таго, каб знішчыць яго сям'ю. Ёй хапала таго, што ён быў побач з ёю і кахаў яе.

А тым часам нехта сказаў пра іх яго жонцы. Хадзіла, як непрытомная, а ён дык вельмі змяніў свае адносіны да яе. Бачыла, што ўсё між імі канчаецца. Тады прыйшло ёй у галаву, каб быць ад яго цяжарнаю, ды не таму, каб разышоўся з жонкай, проста хацела мець нешта ягонае. Сустрэчы іх былі штораз радзейшыя. Калі яна была амаль упэўнена, што зацяжарыла, напісала яму доўгі ліст. Прасіла, каб прыехаў. Калі ён даведаўся, дык так тросся, што не ведала, чым гэта скончыцца. Перапужалася і сказала яму, каб жыў з жонкай, а яна сама выхавае дзіця.

А пасля высветлілася, што няма ніякай цяжарнасці, і гэта яе канчаткова прыбіла. Два разы была каля яго хаты, бачыла яго ў акне. Хацела сказаць, каб ужо не турбаваўся. А ў той час і яе муж даведаўся пра ўсё. У хаце пекла. Муж нарабіў пазыкаў, а аддаваць няма каму. Часамі сяброўка думае пра самагубства, але здаецца, што ў яе рак, дык і так лічыць, што неўзабаве памрэ. Пачала даражыць жыццём, калі здарыўся выпадак на рабоце. Але ў галаву лезуць думкі, што за тыя прапітыя мужам мільёны магла б хоць вугаль на зіму купіць, каб дзеці не мерзлі. Так, трэба выхоўваць дзяцей, мяркуе яна. Не ведае, ці ў такой сітуацыі лепш адысці ад мужа, ці застацца. Мала размаўляюць, бо і праўда, лепш сядзець ціха. Няма ні падарункаў, ні пяшчот, ёсць толькі секс, ды і то толькі тады, калі муж захоча. Ананізуецца ўвесь час, прыбыло ёй сівых валасоў, нервовая. Тужыць па страчаным каханні.

**Андрэй**

Андрэй! Думаю, што развод у такой сітуацыі нічагуткі ёй не дасць. Але ж сядзець у мужыка і ананізавацца... Можа, калісь знойдзецца чалавек, варты яе даверу і адданасці. Тады адыдзе. Усе яе няшчасці, мяркую, не ад таго, што падгледзела ў дзяцінстве бацькоў, бо многія дзеці гэта робяць, а ад таго, што не далі яны ёй цяпла і сардэчнасці, так патрэбных дзіцяці.

**СЭРЦАЙКА**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016